## Прадмова

Няма неабходнасці падрабязна прадстаўляць аўтара гэтай кнігі. Імя Юрыя Хадыкі ў апошні час рэгулярна з'яўляецца на старонках перыядычных выданняў самай markрознай палітычнай арыентацыі. Але ў той час, калі адны з іх з прыязнасцю сустракаюць ідэйную пазіцыю і тэарэтычныя разважанні Ю. Хадыкі, для іншых яго погляды — аб'ект злоснай крытыкі і фальсіфікацый.

Доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, загадчык лабараторыі інстытута фізікі Акадэміі навук Беларусі, намеснік старшыні Сойму БНФ «Адраджэнне» Юрась Віктаравіч Хадыка — асоба неардынарная і шматзначная ў дэмакратычным руху Беларусі. Сёння яшчэ няма дастатковых падстаў для аб'ектыўнага вызначэння ягоных месца і ролі ў развіцці грамадскай думкі Беларусі. Але з упэўненасцю можна сцвярджаць, што тэарэтычная і палітычная дзейнасць Ю. Хадыкі з часам апынецца ў цэнтры ўвагі многіх даследчыкаў. Думаецца, што толькі сур'ёзнае і паслядоўнае вывучэнне творчасці, ідэйнай сувязі з духоўнымі папярэднікамі здольны выявіць усю глыбіню і своеасаблівасць гэтага арыгінальнага філосафа.

Наша задача больш сціплая — засяродзіць увагу чытача на змесце гэтай кнігі. Створана яна на аснове трох дакладаў, якія былі зроблены Ю. Хадыкам для сяброў Сойму БНФ «Адраджэнне». Падрыхтаваныя і прачытаныя ў розны час, яны тым не менш даюць цэласнае ўяўленне аб светапоглядзе аўтара. Адначасова яны дазваляюць поўнацэнна запоўніць той небяспечны вакуум у развіцці грамадскай думкі, што ўтварыўся з разбурэннем камуністычнай ідэалогіі, як пануючай.

Больш таго, на нашу думку, дадзеная работа Ю. Хадыкі дае падставы для вырашэння праблемы, якая высунулася ў шэраг першачарговых. Маецца на ўвазе неабходнасць вылучэння сістэмы светапоглядных ацэнак і пазіцый, здольных ствараць аснову для выпрацоўкі і абгрунтавання нацыянальнай ідэі, што магла б асвя-

ціць далейшы шлях беларускага народа і забяспечыць яму дастойнае месца сярод цывілізаваных народаў свету. Менавіта аб пошуку такой ідэі ў апошні час усё часцей гавораць сумленныя палітыкі і навукоўцы.

З другога боку, вырашэнне гэтай праблемы мае і больш канкрэтны, прыкладны сэнс. Ён у непасрэдным дачыненні светапогляднай арыентацыі, нацыянальнай ідэі да тых пытанняў, што сёння прыцягваюць увагу ўсіх грамадзян і маюць рашаючае значэнне для лёсу Беларусі. Гэта — прынцыпы пабудовы дзяржавы, яе нейтралітэт і, нарэшце, заснаванне дэмакратычных падыходаў да фарміравання сістэмы ўлады, якія б адпавядалі нацыянальным традыцыям і псіхалогіі беларускага народа.

Структурна кніга складаецца з трох частак. Першая і другая з іх цесна звязаны паміж сабой і ўяўляюць, па сутнасці, развіццё адной тэмы — высвятленне гістарычных і культурных асноў трох галоўных накірункаў сучаснай палітычнай думкі. Між тым ёсць і істотныя адрозненні. Першая частка з'арыентавана на высвятленне гістарычных перадумоў з'яўлення ліберальнага, сацыялістычнага і хрысціянска-дэмакратычнага светапогляду і абгрунтавання натуральнай прыдатнасці апошняга да асаблівасцей ладу жыцця і грамадскай псіхалогіі беларускага народа. Другая ж больш датычыцца даследавання сучаснага стану гэтых трох ідэалогій у свеце і неабходнасці выпрацоўкі на аснове хрысціянска-дэмакратычнага светапогляду нацыянальнай ідэалогіі беларускага народа.

Завяршальная, трэцяя частка па часу свайго з'яўлення папярэднічае іншым. Але па свайму зместу і сутнасці яна з'яўляецца лагічным пераходам ад тэарэтычных, светапоглядных пытанняў да палітычных праблем і канкрэтных клопатаў беларускага народа. Нягледзячы на значны час, што прайшоў з моманту абнародавання гэтага даклада, падзеі, што адбыліся на Беларусі ў апошні час, яскрава пацвярджаюць справядлівасць палітычных ацэнак і прагнозаў амаль двухгадовай даўнасці.

Усё сказанае зусім не азначае, што ў поглядах аўтара няма спрэчных або недастаткова абгрунтаваных сцвярджэнняў. Так, напрыклад, здаецца некалькі спрошчанай логіка ўкаранення хрысціянска-дэмакратычнай ідэалогіі ў еўрапейскіх краінах пасля другой сусветнай вайны. Значэнне традыцыйнасці хрысціянскага светапогляду ў гэтым працэсе перабольшана. Дастаткова ўспомніць, што працэс гэты адбыўся на фоне эканамічнага заняпаду ў выніку вайны і паслядоўнай ліквідацыі рэштак фашысцкіх, таталітарных сістэм. Адпаведна, назіралася ўзмацненне камуністычных, сацыялдэмакратычных партый — з аднаго боку, і насаджэнне ліберальна-

га ладу жыцця, дзякуючы ўсталяванню акупацыйнага рэжыму і наяўнасці акупацыйных (амерыканскіх) войскаў — з другога боку. Узмацненне хрысціянска-дэмакратычных тэндэнцый у гэтых умовах больш лагічна разглядаць як вынік супрацьстаяння гэтых дзвюх ідэалогій, натуральнага імкнення грамадства да раўнавагі, цэнтрызму, своеасаблівай «залатой сярэдзіны».

На наш погляд, спрэчным з'яўляецца ацэнка характару ўзаемасувязі паміж прыходам да ўлады сацыял-дэмакратыі і нацыяналізацыяй прыватнай уласнасці. Рэальны працэс адбываецца, хутчэй за ўсё, у адваротным напрамку: фундаментальныя, глыбінныя заканамернасці развіцця рынкавай эканомікі стваралі спрыяльныя ўмовы для прыходу да ўлады той ці іншай партыі. Падтрымка насельніцтвам адпаведнай перадвыбарчай праграмы сведчыць аб здольнасці яе ідэолагаў лепш зразумець сацыяльна-эканамічныя патрэбы часу.

Нельга таксама згадзіцца са сцвярджэннем, што нацыяналізацыя вяла да зніжэння канкурэнтаздольнасці і запавольвання тэхнічнага прагрэсу. Трэба, мусіць, адрозніваць нацыяналізацыю як татальны працэс, агульную аснову існавання пэўнага грамадства. У гэтым выпадку выказаная вышэй думка зусім слушная.

Між тым у эканамічнай практыцы цывілізаваных краін нацыяналізацыя шырока выкарыстоўваецца як эфектыўны сродак аднаўлення, рэканструкцыі жыццёва неабходных для дзяржавы галін гаспадаркі. Менавіта з дапамогаю дзяржаўнага бюджэту ўдавалася нярэдка адрадзіць іх ад заняпаду, зрабіць іх зноў прыцягальнымі для прыватнага прадпрымальніка.

Наогул, трэба адзначыць, што ў грамадстве еўрапейскіх краін сувязь паміж эканамічнымі і палітычнымі працэсамі часцей за ўсё ўскосная. Прывабнасць заклікаў і платформ палітычных партый дасягаецца перш за ўсё праз іх сацыяльную накіраванасць. Палітыка ж і эканоміка развіваюцца даволі аўтаномна.

Дарэчы, заўвагі і меркаванні, што выказаны тут, зусім не змяншаюць значэння прадстаўленай работы. На нашу думку, гэта найбольш змястоўная і ўдалая спроба абгрунтаваць асновы, прынцыпы, здольныя духоўна аб'яднаць народ Беларусі, накіраваць яго высілкі на стварэнне дэмакратычнай і суверэннай дзяржавы.

А неабходнасць такога аб'яднання і самавызначэння сёння наспела як ніколі. Імклівае з'яўленне сярод першачарговых праблем пытання аб так званай «калектыўнай бяспецы», прыкрытага «эканамічным саюзам», недвухсэнсоўна сведчыць аб канчатковым развейванні міфа аб «стабільнасці», выключнасці становішча Белару-

сі на ахопленых сацыяльнымі канфліктамі прасторах былога СССР.

Трэба падкрэсліць яшчэ адну акалічнасць, якая дазваляе бачыць вялікую верагоднасць укаранення хрысціянска-дэмакратычнага светапогляду ў якасці ідэйнай асновы БНФ «Адраджэнне». БНФ — гэта масавы народны рух. Таму яго ўнутраная жыццядзейнасць адбываецца не толькі згодна з палітычнымі законамі, але перш за ўсё адлюстроўвае ўсю жыццядзейнасць грамадства, асаблівасці ладу жыцця беларускага народа.

З гэтага, у прыватнасці, вынікае, што ў дзейнасці руху непараўнальна вялікае значэнне набываюць маральныя, уласна народніцкія прынцыпы арганізацыі. І менавіта хрысціянства ў найбольшай ступені ўтрымлівае ў сабе гэтыя стагоддзямі выпрацаваныя і адшліфаваныя нормы сумеснага жыцця — чалавечую мараль. Адпаведна, рух, які адлюстроўвае памкненні найбольш шырокіх слаёў грамадства, павінен кіравацца не столькі палітычнымі, колькі хрысціянскімі маральнымі крыніцамі і ўстаноўкамі.

Усведамленню сваіх нацыянальных мэтаў, пошуку шляхоў і сродкаў іх дасягнення беларускім народам несумненна будзе садзейнічаць кніга прафесара Ю. Хадыкі.

**Ул. Якубоўскі,**
**канд. філасофскіх навук.**

# ХРЫСЦІЯНСТВА І АДРАДЖЭННЕ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ.

**(Даклад на Сойме БНФ «Адраджэнне» 13 чэрвеня 1992 г.).**

Тэма майго дакладу фактычна неабсяжная. Культура, у самым шырокім сэнсе гэтага слова, ёсць характарыстыка ладу жыцця. Ёсць культура духоўная, артыстычная, пабытовая, гаспадарчая, прававая і г. д. У здаровым поўнавартасным грамадстве ўсе бакі і праявы культуры самаўзгоднены паміж сабой і ўтвараюць несупярэчлівую сістэму. Асновай гэтага адзінства з'яўляецца светапогляд, які фармуецца веравызнаннем. Так аказваюцца завязанымі паміж сабой праблемы культуры і хрысціянства, якія на працягу 1000 гадоў былі формаўтвараючай ідэалогіяй нашай традыцыйнай культуры.

Разумеючы складанасць азначанай тэматыкі, я мяркую абмежавацца трыма галоўнымі, на маю думку, пытаннямі:

1. Крытыкай ідэялогіі «рэальнага» ці «навуковага» сацыялізму, паколькі не пераадолеўшы ў свядомасці людзей сфармуляваны ім у грамадстве светапогляд цяжка гаварыць аб адраджэнні нацыянальнай культуры;

2. Аналізам асаблівасцей традыцыйнай, хрысціянскай культуры Беларусі і яе сувяззю з актуальнымі палітычнымі праблемамі;

3. Менавіта канфесійнай палітыкай у сённяшняй і будучай дэмакратычнай Беларусі.

Такая пабудова даклада выклікана неабходнасцю, хаця б коратка, разглядзець светапоглядныя асновы дэмакратычнага руху ў Беларусі, які ўвасабляецца ў першую чаргу ў дзейнасці БНФ «Адраджэнне». Разглядзець дзеля таго, каб высветліць доўгатэрміновыя мэты нашай працы, па магчымасці вызначыць і абмеркаваць яе бліжэйшыя арыенціры з улікам той сітуацыі, якая склалася ў Беларусі.

Разглядзець у параўнанні з камуністычнай ідэялогіяй, якую нясуць нашаму грамадству рознамастыя камуністычныя групоўкі,

не страціўшыя да сённяшняга дня ані сваёй арганізаванасці, ані свайго злачыннага намеру павярнуць кола гісторыі назад і вярнуць грамадства да камандна-адміністратыўнай сістэмы. Яны карыстаюцца тым, што людзі раздражнёны ростам цэнаў і дэфіцытам тавараў, незаконнай прыватызацыяй і спекуляцыяй, крызісам дзяржаўнай улады і ростам злачыннасці. Яны спрабуюць перакласці адказнасць за развал гаспадаркі з хворай галавы на здаровую. Трэба даць тым людзям, на якіх уздзейнічае пракамуністычная фразеалогія, магчымасць зразумець прычыны правалу камунізма ва ўсім свеце, ягоную антыгуманную сутнасць і гістарычную бесперспектыўнасць.

## Тыпалогія грамадскага ладу.

Гісторыя чалавечай цывілізацыі ведае два тыпалагічна розныя віды грамадства. Адзін з іх можна ўмоўна назваць калектывісцкім альбо сацыялістычным, другі — індывідуалістычным альбо дэмакратычным. Розніца паміж імі складалася найперш у светапоглядным прыярытэце правоў і інтарэсаў грамадства як цэлага, альбо правоў і інтарэсаў асобы. Гэтыя прыярытэты замацоўваліся ў вераваннях, культурнай традыцыі, сацыяльнай структуры, сістэме права, тыпе гаспадаркі і іншых інстытутах цывілізацыі.

У пісьмовай гісторыі чалавецтва першым свой след пакінула менавіта грамадства сацыялістычнага тыпу. Старажытныя цывілізацыі Месапатаміі і Егіпта ўспрымалі створанае імі грамадства як адзінае цэлае, падобна чалавечаму арганізму, дзе кожная асоба павінна была выконваць сваю пэўную ролю, і адпаведна, займаць сваё вызначанае пры нараджэнні месца (прыпомніце словы Сталіна пра чалавека, як вінціка дзяржаўнай машыны). Гэтыя грамадствы былі жорстка структураванымі па ўзору вайсковай арганізацыі і абавязкова мелі на чале асобу, надзеленую надзвычайнымі правамі, паўнамоцтвамі і прывілеямі.

Спачатку гэты першабытны калектывізм даў выдатныя вынікі. Людзі, арганізаваныя ў шматлікія дысцыплінаваныя гурты (нагадаем ідэю працоўных армій Л. Троцкага), здолелі зрабіць тое, што было не пад сілу адной сям'і і нават роду. Яны абваднілі пладародныя землі далін Ніла, Тыгра і Еўфрата, што дало ім магчымасць атрымліваць нябачныя ў тыя часы ўраджаі і стварыць ўмовы для развіцця металургічнай вытворчасці, разнастайнага рамяства, будаўнічай культуры, мастацтва і навукі.

Але за гэты дабрабыт людзі заплацілі перш за ўсё сваімі правамі. У грамадствах першабытнага сацыялізму не існавала нават

ідэі роўнасці. Фараон, напрыклад, лічыўся сынам неба. Яго атачала шматлікае чынавенства, якое карысталася рознымі прывілеямі, займалася рэлігійнымі справамі і адначасна рэгуляваннем гаспадарчых працэсаў (параўнайце з камуністычнай дзяржаўна-гаспадарчай наменклатурай). Шэраговыя працаўнікі, акрамя працы ва ўласнай гаспадарцы, былі абавязаны прымаць удзел у агульных работах і, часам, цалкам забяспечваць сваё існаванне за кошт натуральнай аплаты з агульнадзяржаўных крыніц.

Гэтыя грамадствы былі надзвычай устойлівымі. Іх каставая структура замацоўвалася сістэмай рэлігійных поглядаў і юрыдычнымі нормамі. Асоба шэраговага чалавека ўяўляла невялікую каштоўнасць. Але існавала і тое, што сёння мы назвалі б сацыяльнай справядлівасцю. Прывілеяваныя касты мелі не толькі правы, а і вельмі жорсткія абавязкі. Немагчыма, напрыклад, уявіць, каб пасаду адміністратара акругі альбо жраца ў Старажытным Егіпце заняў «па блату» неадукаваны чалавек. У тыя часы адукацыя была не правам, а абавязкам чалавека з пэўнай касты. Дзяржава клапацілася аб простым чалавеку. Ствараліся вялікія запасы харчу, каб пазбегнуць голаду ў неўраджайныя гады. Шматлікія рытуалы задавальнялі духоўныя патрэбы людзей і давалі ім адпачынак.

Зразумела, што арганізаванае такім чынам грамадства губляе шмат са сваіх патэнцыяльных магчымасцей і з неабходнасцю ідзе да стагнацыі — застою, спыненню гаспадарчага і культурнага прагрэсу. Для яго характэрна ідэялізацыя створанай культуры, яе рэлігійнае апраўданне і апяванне, і выключэнне іншых магчымасцей існавання. У гісторыі культуры такія грамадствы завуцца стагнацыйнымі.

Але побач з гэтымі квітнеючымі аазісамі земляробчай цывілізацыі існавалі неабмежаваныя прасторы, заселеныя качавымі народамі з прымітыўнай рода-пляменнай арганізацыяй. Яны карысталіся з набыткаў цывілізацыі аседлых суседзяў, якія даходзілі да іх праз гандаль і войны. Іх ментальнасць, вобраз мыслення былі зусім іншымі. Яны не мелі такой жорсткай неабходнасці ў аб'яднанні для апрацоўкі зямлі. Адгон на новыя месцы выпасу вымагаў хутчэй асабістай кемлівасці і прадпрымальнасці, а неабсяжныя прасторы спрыялі канкурэнцыі. Гэтыя плямёны — продкі гэбрэяў і арабаў — выпрацавалі іншы светапогляд, найбольш істотнымі рысамі якога былі прынцыпы роўнасці людзей і свабоды волі ці свабоды выбару. Натуральным афармленнем гэтай сістэмы поглядаў была рэлігійная канцэпцыя адзінства Бога, які не мог быць у родных адносінах з тым ці іншым чалавекам, нават ца-

ром, і перад тварам якога ўсе роўныя.

Грамадства, якое склалася на падставе гэтай ідэялогіі — ідэялогіі індывідуалізма, дзе найвышэйшай каштоўнасцю была асоба чалавека сама па сабе, было значна больш дынамічным і скіраваным на прагрэс. Яно выпрацавала ўяўленне аб няспынным развіцці культуры, аб лінейным часе ў адрозненне ад часу цыклічнага, звязанага са штогадовым земляробным працэсам. Светапогляд гэтага грамадства лёгка рэканструяваць, паколькі ён адлюстраваны ў Бібліі. Так, кардынальныя заваёвы індывідуалістычнай цывілізацыі адбіліся ў самых першых мітах Старога Запавету — міце аб стварэнні свету і чалавека, як пачатковай кропкі гісторыі чалавечай культуры, і, што цікава, у міце аб парушэнні чалавекам першай дамовы з Богам. Загадаўшы не есці пладоў з дрэва пазнання дабра і зла, Бог пазбаўляў першалюдзей свабоды волі, што было характэрна для папярэдняга калектывісцкага грамадства. Вынікам гэтай спакусы, гэтага першароднага грэху стала выгнанне Адама і Евы з раю і прадастаўленне ім права на самастойнае забеспячэнне свайго жыцця.

Галоўным рэгулятарам сацыяльных адносін у такім грамадстве стала не іерархічная каставая структура, заснаваная на неабмежаванай уладзе манарха, а маёмасныя дачыненні, адлюстраваныя ў пятай кнізе Майсеевай, якая ўтрымлівае зачаткі самага старажытнага грамадскага права.

Не трэба спецыяльна тлумачыць, што грамадствам новага індывідуалістычнага тыпу самім лёсам было наканавана ўступіць у гістарычную канкурэнцыю з грамадствамі старога калектывісцкага тыпу. І гэты паварот цывілізацыі адбіўся ў мітах Старога Запавету. Вядома, што земляроб Каін забівае жывёлавода Авеля, за тое, што пах ахвяр, ім прынесеных, спадабаўся Богу больш за Каінавых. У вельмі простых вобразах-сімвалах перадае Біблія сэнс глабальных працэсаў чалавечай гісторыі. Не забываючы, аднак, даць ім адпаведную эмацыйную афарбоўку, таму што на самой справе менавіта індывідуалістычны тып грамадства, якое ўвасабляе Авель, атрымлівае перамогу ў гістарычнай барацьбе з каставым, стагнацыйным грамадствам Каіна.

Найвышэйшага росквіту і самых спелых форм індывідуалістычны тып грамадства дасягае ў часы антычнага свету, у абліччы старажытнай грэцкай і рымскай цывілізацый. Добра вядома, што карані сучаснага грамадскага права — ў юрыспрудэнцыі старажытнага Рыму. Там нарадзілася дэмакратыя і прынцыпы падзелу ўлады. Там склаліся многія нормы маёмаснага права, якія не змяніліся да сённяшняга дня. Вядома таксама, што гэтыя грамадствы адроз-

ніваліся веравызнаўчай талерантнасцю і касмапалітычнасцю (нацыянальнай індэферэнтнасцю).

Але ў сваім развіцці індывідуалістычныя цывілізацыі даволі хутка выявілі і галоўную, іманентную іх прыродзе, супярэчнасць. Гэтая супярэчнасць вынікала з неадпаведнасці светапогляднага ўяўлення аб роўнасці людзей і іх фактычнай няроўнасці, якая параджалася маёмаснымі дачыненнямі і канкурэнцыяй. Менавіта пануючыя ў грамадстве ўяўленні аб роўнасці параджалі сацыяльныя канфлікты і надавалі ім невядомую раней вастрыню.

Біблія і ў гэтым плане дае нам унікальную магчымасць прасачыць шляхі чалавечай культуры, паколькі першай гістарычна і вельмі шматзначнай рэакцыяй на гэтую супярэчнасць было ўзнікненне інстытута прарокаў. На той ступені развіцця цывілізацыі яны, прарокі, бралі на сябе тыя функцыі, якія пазней належалі мастацтву і навуцы. Але не натурфіласофскай навуцы і артыстычнаму, гэта азначае рынкаваму, мастацтву. Іх дзейнасць, іх інтэлект былі скіраваныя на карысць грамадства як цэлага. Таму ў кнігах прарокаў так многа жорсткай крытыкі багатых і магутных, іх карыслівасці і эгаізму. Менавіта прарокі сваім прыкладам, сваімі пакутамі ўсталявалі вялікі маральны стандарт для інтэлектуальнай эліты кожнага грамадства, абавязак якой клапаціцца аб слабых і няздольных, а не спяваць оды гаспадарам жыцця.

Тым не менш ні прарокі, ні нарадзіўшаяся пазней філасофія не аказаліся здольнымі вылячыць сацыяльныя хваробы індывідуалістычнага грамадства. Яно імкліва ішло да разлажэння і непазбежнай смерці. Еўрапейскую цывілізацыю вырата́вла хрысціянства.

Са светапогляднага боку хрысціянства індывідуалістычную (старазапаветную) канцэпцыю роўнасці свабоды дапоўніла канцэпцыяй братняй любві, якая сэнсава караніцца ў ідэалогіі патрыярхальных грамадстваў калектывісцкага тыпу і істотна абмяжоўвае практычны прынцып канкурэнцыі. Яно адкінула прынцып роўнасці размеркавання матэрыяльных даброт аў, якая магчыма толькі на ніжэйшым жабрацкім узроўні. Хрысціянства замяніла прынцып размеркавальнай роўнасці прынцыпам роўнасці магчымасцей, якія кожны індывід, кожная асоба можа выкарыстаць у адпаведнай яе здольнасці ступені. Гэтае кардынальнае палажэнне хрысціянскага калектывізму зафіксавана ў славутай прыпавесці аб талентах (Мт. 25; 14—30). Сутнасць яе ў тым, што чалавек не можа абмяжоўвацца статус-кво, але павінен працаваць, каб памножыць свае таленты. Пры гэтым няма розніцы ў тым, ці разумець пад гэ-

тым тэрмінам маёмасную каштоўнасць (першасны сэнс слова талент), ці здольнасці чалавека.

Такім чынам, хрысціянства, адкінуўшы з аднаго боку канцэпцыю роўнасці і неабмежаванай канкурэнцыі, а з другога — ідэю сацыяльнага патранімізму і каставых прывілеяў, сцвярдзіла светапоглядны прынцып братняй любві і роўнасці магчымасцей людзей. Хрысціянства адкрыла трэці, цэнтрысцкі шлях, які можна назваць хрысціянскім сацыялізмам. Яно здолела стварыць ідэялогію гарманічнага спалучэння правоў асобы і правоў грамадства як цэлага, адмяніўшы два скрайніх варыянты чыстага індывідуалізму ці чыстага калектывізму.

Не трэба, зразумела, думаць, што ў сваёй гістарычнай практыцы хрысціянская цывілізацыя стварыла царства Божае на зямлі, паколькі паміж веравызнаннем, ідэялогіяй і рэальнай практыкай існуе непераадольны разрыў. І тым не менш, шмат што з сацыяльнай практыкі, юрыдычнай думкі і міжнацыянальнай палітыкі хрысціянскай цывілізацыі ўяўляе бясспрэчную каштоўнасць і для сённяшняга дня.

З вышэйсказанага вынікае, што на грунце хрысціянскай ідэялогіі не магло паўстаць грамадства прававога тыпу ў сучасным разуменні гэтага тэрміну. Хрысціянская цывілізацыя магла стварыць і стварыла грамадства калектывісцкага тыпу. Яна дапускала існаванне пэўных каст. Іх было тры. Гэта — працоўныя, ваенныя і філосафы. Я наўмысна выкарыстоўваю тэрміналогію Платона, а не агульна прынятыя вызначэнні сацыяльнага падзелу грамадства ў сярэднявечнай Еўропе, каб падкрэсліць сувязь рэалізаванай хрысціянскім сацыялізмам грамадскай структуры са славутай тэорыяй дзяржавы старажытнага грэцкага філосафа.

Платон лічыў, што для дасягнення грамадскай згоды, устойлівасці дзяржавы і чалавечага шчасця неабходны гэтыя тры касты з пэўнымі цвёрда акрэсленымі правамі і абавязкамі. Працоўныя абавязаны ствараць дабрабыт грамадства і маюць права атрымліваць узнагароду, адпаведную эфектыўнасці іх працы. Ваенныя павінны кіраваць дзяржаваю, абараняць яе і маюць права на поўнае задавальненне сваіх патрэб. Філосафы абавязаны ствараць законы, па якіх жыве грамадства, і маюць права на поўную духоўную свабоду, але павінны быць абмежаваныя ў задавальненні сваіх матэрыяльных патрэб.

У класічным сярэднявеччы лёгка заўважыць поўную паралель гэтай ідэялізаванай схеме. Працоўныя — гэта саслоўе сялян і рамеснікаў, ваенныя — гэта нобілітэт (феадалы, рыцары), філоса-

фы — гэта святары. Адно прынцыповае дапаўненне зрабіла хрысціянства да платонавай схемы. Яно надало грамадству хрысціянскага сацыялізму вертыкальную рухомасць. Гэта азначае, што былі зроблены ўмовы, каб спадчынныя касты не былі ізаляванымі. Каста «жрацоў» у Заходняй Еўропе наогул не была, дзякуючы цэлібату, спадчыннай, але папаўнялася выключна за кошт выхадцаў з кастаў ваенных ды працоўных.

І тым не менш, менавіта каставасць, парушэнне вялікага прынцыпу роўнасці паслужыла повадам да разбурэння сістэмы хрысціянскага «сацыялізму» сярэднявечча. Для гэтага спатрэбілася царкоўная рэвалюцыя, вядомая ў гісторыі пад назваю Рэфармацыя, і амаль 400 год грамадскіх забурэнняў. Рэфармацыя парадзіла першыя буржуазныя рэвалюцыі і ўтварэнне новых цывілізацый, якія можна аб'яднаць адным палітычным вызначэннем-дэмакратыі. Адпаведна адбылася трансфармацыя пануючага светапогляду ў бок адмаўлення любых саслоўных прывілеяў і асобай грамадскай ролі тых ці іншых груп насельніцтва. Прынцып свабоднай, нічым не абмежаванай канкурэнцыі ў вытворчай сферы, вядомы «Laissez faire» (дазваляйце рабіць) стаў вядучым прынцыпам грамадскай жыццёдзейнасці новых індывідуалістычных цывілізацый, такіх як ЗША, Англія, паўночна-еўрапейскія краіны.

Рэакцыя на калектывісцкія каштоўнасці хрысціянскага сацыялізму сярэднявечча была такой востраю, што грамадская філасофская думка рэфармацкіх краін адкацілася на пазіцыі апалагетыкі гранічнага індывідуалізма. Зразумела, што апісаныя вышэй супярэчнасці грамадства паслядоўнага індывідуалізму, ці лібералізму, як стала называцца гэтая плынь сацыяльнай філасофіі, не прымусілі сябе чакаць і праявіліся ў добра вядомых хібах маладога капіталізму. Гэта — абвастрэнне маёмаснай, а значыць, фактычнай няроўнасці грамадзян, маральная непаўнавартасць працэсу ўтварэння першапачатковага капіталу, знішчэнне тых сістэм сацыяльнай абароны чалавека, якія існавалі ў сярэднявеччы.

Таму новае капіталістычнае грамадства так павольна заваёўвала еўрапейскую геапалітычную прастору, нягледзячы на тое, што стварыла вельмі спрыяльныя ўмовы для развіцця гаспадаркі. Таму яно і парадзіла вострую крытыку сваёй сацыяльнай практыкі, якая найбольш завершаную форму атрымала ў тэорыі К. Маркса. Аднак у станоўчым плане марксізм не сягнуў далей, чым прапаганда ідэялогіі прымітыўнага калектывісцкага грамадства, назваўшы яе «навуковым сацыялізмам». Галоўным чыннікам глыбокай рэтраспектыўнасці навуковага сацыялізму была адмова ад знойдзенага хрысціянскім сацыялізмам кампрамісу паміж індыві-

дуалістычнымі і калектывісцкімі каштоўнасцямі і светапоглядамі. Асабліва выразна гэта бачна на марксісцкім вучэнні аб класавай барацьбе і дыктатуры пралетарыяту. Відавочна сувязь самога ўяўлення аб класах з грамадскімі кастамі, характэрнымі для дзяржаў сацыялістычнага тыпу. Але нармальная структура грамадства ў марксізме была перавернута з ног на галаву. Таму ў краінах «рэальнага» сацыялізму пры практычнай рэальнасці ідэй марксізму ўсё стала на свае месцы, і ў грамадстве запанавала каста дзяржаўнай бюракратыі.

Навуковы сацыялізм рэалізаваў прымітыўную мару аб роўным размеркаванні, абвясціўшы рухаючай сілай гісторыі фактычна люмпена, пралетарыят, людзей, пазбаўленых сродкаў вытворчасці, нават некваліфікаваных рабочых, якія валодаюць і інтэлектуальнай маёмасцю таксама, як і спецыялісты — інтэлігенты, інжынеры, лекары, настаўнікі. Гэтым самым ён ліквідаваў рынак, канкурэнцыю, добрасумленнае спаборніцтва. І разам з тым прадугледзеў узмацненне ролі дзяржавы, а гэта азначае існаванне касты, якая дзяржаву абслугоўвае, і ідэялагічнае адзінства, што азначае існаванне касты жрацоў. Таму партыя з такой асалодаю займалася кадравай палітыкай, пястуючы касту наменклатуры.

Падсумоўваючы, можна сказаць, што грамадства, якое будавалі бальшавікі на абшарах СССР, было дакладнай рэалізацыяй ідэі навуковага сацыялізму — калектывісцкага грамадства самага прымітыўнага тыпу, яно непазбежна павінна было прыйсці да гаспадарчага краху ў спаборніцтве з грамадствамі дэмакратычнага тыпу па двух галоўных прычынах:

з-за сваёй арыентацыі на роўнае задавальненне запатрабаванняў працоўных на ніжэйшым, люмпенскім узроўні, стварэнне планавай размеркавальнай гаспадаркі і недапушчэнне канкурэнцыі, нават у межах класа (касты) працоўных;

— а таксама з-за адкрытага адмаўлення маральных каштоўнасцей (дзяржаўнага атэізму), што прывяло да афармлення мафіёзнай кіруючай касты.

Тым часам, пакуль у сацыялістычным лагеры з многімі крывавымі ахвярамі ажыццяўляўся гістарычна бесперспектыўны эксперымент па вяртанню да прымітыўнага калектывісцкага грамадства, у Заходняй Еўропе адбывалася эвалюцыя індывідуалістычнага (капіталістычнага) грамадства ў накірунку стварэння эфектыўнай сістэмы сацыяльных гарантый для недзеяздольных грамадзян і стварэнне палітычных і эканамічных умоў для рэалізацыі хрысціянскага прынцыпу роўнасці магчымасцей. Нездарма той тып гра-

мадства, які склаўся ў развітых краінах Еўропы і Амерыкі, называюць постіндустрыяльным, ці народным капіталізмам. Але ў светапоглядных адносінах яго лепш назваць хрысціянскай дэмакратыяй, паколькі адмовіўшыся ад каставасці хрысціянскага сацыялізму сярэднявечча, сучасныя заходнія грамадствы фактычна адрадзілі патранімісцкую (гарантыйную) ролю дзяржавы. У гэтым працэсе лідэрамі з'яўляюцца не класічныя індывідуалісцкія грамадствы ЗША і Паўночнай Еўропы, а краіны Цэнтральнай і Паўднёвай Еўропы, дзе вялікі ўплыў мае царква, і чый вопыт мае асаблівую каштоўнасць для Беларусі.

## Аб традыцыйнай культуры Беларусі.

Увесь гэты працяглы аналіз спатрэбіўся мне, каб абгрунтаваць некалькі тэзісаў, якія датычацца шмат якіх бакоў палітыкі БНФ. Паколькі культура, якая ахоплівае сферу духоўнага жыцця, сацыяльна-псіхалагічных стэрэатыпаў, свядомых і падсвядомых рэакцый насельніцтва, выступае як галоўны рэгулятар грамадскіх працэсаў, гэтая палітыка абавязкова павінна ўлічваць галоўныя рысы нашай культурнай традыцыі.

1. Азірнуўшыся зараз на нашу гісторыю, мы лёгка заўважым, што на абшарах Беларусі архаічнае грамадства сацыялістычнага тыпу было блізкім да скону тройчы: ў другой палове XVI стагоддзя, у другой палове XVIII стагоддзя і ў пачатку XX стагоддзя. Першы раз, дзякуючы перамозе Контррэфармацыі, другі раз — далучэнню да Расейскай імперыі і трэці — ў выніку бальшавіцкага перавароту, пераход да цывілізацыі індывідуалістычнага тыпу ці дэмакратыі не адбыўся. І гэта азначае, што культурная традыцыя беларусаў прасякнута ідэямі калектывісцкага грамадства, такімі як прызнанне прынцыпа роўнасці магчымасцей, прынцыпа сацыяльнай абароненасці як дзяржаўнай справы і прызнанне права дзяржаўнай улады на рэгуліроўку не толькі культурных, але і эканамічных працэсаў.

Усе гэтыя агульныя палажэнні набываюць канкрэтныя і выразныя рысы, калі мы паспрабуем прымяніць іх да аналізу канцэпцый рэформ у любой галіне. Напрыклад, адукацыя. Наша грамадства згодна і чакае дзяржаўнага рэгулявання сістэмы адукацыі і забеспячэння роўнага права ў атрыманні адукацыі кожнага чалавека (найперш дзецьмі). Але яно згодна і з тым, што ступень адукаванасці павінна залежыць толькі ад здольнасцей навучэнца, а гэта значыць, яно супраць закрытых устаноў накшталт ВПШ.

Ці эканоміка. У дзяржавах архаічнага хрысціянскага сацыялізму дзейнічала юрыдычнае абмежаванне крэдытнага працэнту і

дыферэнцыяцыя падатковага аблажэння ў залежнасці ад хуткасці абарачэння капіталу, што перашкаджала канцэнтрацыі грашовых сродкаў у руках нямногіх і фактычна выключала ўзбагачэнне, неадпаведнае працоўным затратам. Гэта тыповы прыклад дзяржаўнага рэгулявання рынкавых дачыненняў у межах сацыяльнай рынкавай эканомікі. Культурная традыцыя нашага грамадства прымае такое рэгуляванне і супраць класічнага прынцыпу лібералізму «Laissez faire». Таму нам бліжэй сярэднееўрапейская мадэль постіндустрыяльнага грамадства, якая на першы план ставіць працоўную паслугу, а не тавар. І гэтак далей.

2. Але ў нашай культурнай традыцыі адбілася і тое, што Рэч Паспалітая тыпалагічна была алігархічнай рэспублікай, дзе добра былі распрацаваны правы асобы (чалавека паспалітага) і мелася пэўная дэмакратычная практыка. Так, вышэйшым органам заканадаўчай улады быў Сойм, які складаўся з прадстаўнікоў буйной і дробнай шляхты і духавенства. Дзейнічала канстытуцыя-Статут Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Існавала права «ліберум вета», гэта значыць рашэнні прымаліся толькі аднагалосна (альбо кансэнсусам, як прынята гаварыць сёння), што было надзейнай гарантыяй правоў меншасцей. Мясцовыя праблемы вырашаліся павятовымі соймікамі. Гарады ў большасці сваёй валодалі магдэбурскім правам і мелі сваё самакіраванне. Зразумела, што гэта была абмежаваная дэмакратыя, паколькі насіла выразны саслоўны характар. Але гэта была ўсё ж дэмакратыя, а не абсалютызм, які ў Расеі межаваў з тыраніяй.

Таму наша грамадства ў значна большай ступені ў параўнанні, напрыклад, з Расеяй гатовае да паслядоўных дэмакратычных рэформаў і пераходу да грамадства, заснаванага на канцэпцыі недатыкальнасці правоў асобы, у тым ліку і права прыватнай уласнасці. Сацыялагічныя апытанні паказваюць, напрыклад, што ў такім складаным і балючым пытанні, як прыватызацыя, большасць нашага насельніцтва згодна з ідэяй выкупу, а не падзелу ўласнасці.

Ідэя грамадскай і чалавечай роўнасці ў беларускай культурнай традыцыі складвалася і замацоўвалася стагоддзямі. Само Вялікае Княства паўстала ў XIII стагоддзі як поліэтнічная дзяржава. З цягам часу яе грамадзянамі, акрамя беларусаў, украінцаў, літоўцаў сталі татары, габрэі, немцы, выхадцы з Расеі. Яшчэ больш стракатаю была карціна веравызнаўчых прыхільнасцей. Спачатку хрысціянства ўсходняга абраду тут суіснавала з паганствам. У канцы XIV стагоддзя з'явіліся вернікі рыма-каталіцкай царквы.

Потым іудаізм і мусульманства. Яшчэ пазней пратэстанцтва. У 1596 г. паўстала Унія, а ў XVII стагоддзі з'явіліся расейскія стараабрадцы. Згаданы вышэй Статут 1588 г. дэкляраваў роўнасць усіх веравызнанняў, і хаця пазней каталіцызм стаў дзяржаўным веравызнаннем, ён не быў у Вялікім Княстве Літоўскім рэлігіяй большасці.

Спароджаная нашай гісторыяй міжнацыянальная і веравызнаўчая талерантнасць робіць Беларусь сапраўды еўрапейскаю краінаю, паколькі ў культурнай традыцыі беларусаў даўно замацавалася ўяўленне аб расавай, нацыянальнай і веравызнаўчай поўнавартаснасці асобы. Таму для нас непрымальная ідэя дзяржаўнай царквы, ці абмежаванне нацыянальна-культурных патрэб нацыянальных меншасцей.

## АБ КАНФЕСІЙНАЙ ПАЛІТЫЦЫ У ДЭМАКРАТЫЧНАЙ БЕЛАРУСІ.

І тут мы прыходзім да вельмі балючага пытання аб правах нацыянальнай большасці, правах, да апошніх часоў нам цалкам невядомых, паколькі беларусы былі нацыянальнай меншасцю ў сваёй краіне. Менавіта вакол дзяржаўнасці беларускай мовы, беларусізацыі царквы і сістэмы адукацыі ідуць найбольш вострыя і гарачыя спрэчкі. Ёсць людзі, якім вельмі карціць захаваць замест знешняй, прымусовай — унутраную і добраахвотную каланіяльную залежнасць. Мне не хацелася б спрачацца з відавочнымі манкуртамі — як аўтарамі лістоў, так і рэдактарамі газет, якія іх змяшчаюць, мэта якіх проста абразіць беларусаў на іх зямлі, у іх дзяржаве, плюнуць на беларускую культуру публічна. Заслугоўваюць увагі довады больш памяркоўных апанентаў, сутнасць якіх у пытанні: «Ці варта змагацца з рэальна склаўшымся станам?».

Я думаю, што варта, калі склаўшыйся стан пагражае небяспечным развіццём грамадскіх працэсаў. І я думаю, не трэба тлумачыць, што мы рэальна сталі перад выбарам: альбо суверэнная нацыянальная дзяржава, альбо спыненне існавання беларускага этнасу, падзел яго паміж Польшаю і Расеяй і добраахвотнае вяртанне ў стан заходняй ці ўсходняй ускраіны. Такім чынам, пытанне стаіць аб тым, як суадносяцца правы асобы і правы нацыі, правы карэннай нацыі і нацыяльных меншасцей ва ўсім спектры грамадскіх узаемадачыненняў. Адказ на гэтае пытанне нам можа даць не чый-небудзь прыклад, а ў першую чаргу наша гісторыя, наша культурная традыцыя, паколькі варыябельнасць, неадназначнасць адказаў на пастаўленае пытанне паказвае на вядучую ролю менавіта культурнай традыцыі.

Варта адзначыць, што само паняцце нацыі, як грамадскай супольнасці, якая адрозніваецца ад роду ці племені, якая аб'ядноўваецца агульнай мовай і культурай, склалася ў прымітыўных сацыялістычных грамадствах.

Правы нацыі, якія атоесамліваліся з правамі грамадства, былі непараўнальна большымі, чым правы асобы, ці нацыянальнай меншасці. І тут вельмі выразны, свежы яшчэ прыклад былога СССР, дзе стваралася новая гістарычная супольнасць — савецкі народ, у ахвяру якой прыносіліся як правы асобы, так і правы шматлікіх народаў.

Раннія індывідуалістычныя (протадэмакратычныя) грамадствы ў значна большай ступені былі касмапалітычнымі. Прыярытэт належаў веравызнаўчай ці культурнай супольнасці. Напрыклад, іўдзейскі народ вельмі доўга не быў нацыяй, а хутчэй веравызнаўчым адзінствам. Другі добра вядомы прыклад касмапалітычнага грамадства — Старажытны Рым.

Сярэднявечныя цывілізацыі хрысціянскага сацыялізму не выпрацавалі па гэтаму пытанню аднастайнага падыходу. У залежнасці ад суадносін царкоўнай улады і дзяржаўнай улады склалася два галоўных стэрэатыпы. У Заходняй Еўропе, дзе духоўная ўлада належала і належыць наднацыянальнаму цэнтру — святому прастолу ў Рыме, склалася цывілізацыя супольнасці роўных хрысціянскіх нацыяў. Правы нацыі сталі неад'емнай часткаю правоў асобы. Наадварот, на Усходзе, дзе захаваліся рэшткі наднацыянальнай імперыі — старажытнага Рыму, духоўная ўлада аказалася падпарадкаванаю ўладзе дзяржаўнай. Таму ўсходне-хрысціянскія цэрквы (праваслаўныя) заўсёды насілі памесны (тэрытарыяльны) характар і абслугоўвалі інтарэсы дзяржавы. У тых выпадках, калі праваслаўныя дзяржавы набывалі характар імперыі, гэта азначае шматнацыянальнай краіны, праваслаўная царква заўсёды адыгрывала ролю інструмента нацыянальнай нівеліроўкі і ідэалагічнага апраўдання імперскай структуры, адмаўляючы права народаў на самавызначэнне. Самыя апошнія прыклады — Расея і Сербія, хаця такая палітыка працягваецца з часоў Візантыі.

Беларусь, якая размешчана на мяжы ўсходне- і заходнехрысціянскага арэалаў, у часы яе дзяржаўнай незалежнасці і самастойнасці мела і аўтакефальную памесную праваслаўную царкву, якая падпарадкоўвалася Канстантынопалю, і аўтакефальную каталіцкую, і аўтакефальную ўніяцкую царкву, якія падпарадкоўваліся апостальскай сталіцы — Рыму. Але са стратаю незалежнасці ў канцы XVIII стагоддзя і пераўтварэннем Беларусі ў правінцыю Расейскай імперыі, беларускі народ стаў аб'ектам нябачнай па

жорсткасці і мэтанакіраванасці палітыкі русіфікацыі. Усе аўтакефальныя цэрквы былі знішчаны. Нацыянальная прыналежнасць вернікаў атоесамлена з іх веравызнаннем. Так, рыма-католікі сталі палякамі, а праваслаўныя, царква якіх была падпарадкавана Маскве, — расейцамі. Гэта беспрэцэдэнтны гвалт у гісторыі хрысціянскай цывілізацыі. Так склалася, што самы каштоўны набытак хрысціянскага народу — вераванне, праз дзейнасць на ягонай зямлі чужых канфесій стаў сродкам яго дэнацыяналізацыі.

Трэба падкрэсліць, што ў святле гістарычнай і культурнай традыцыі праваслаўная дзейнасць РПЦ у Беларусі выглядае цалкам лагічнай, а створаная Маскоўскай патрыярхіяй беларуская «аўтакефалія» ніколі не будзе мець рэальнага сэнсу. З другога боку, пазіцыя архібіскупа рыма-каталіцкай царквы ў Беларусі, абвясціўшага пра свой польскі патрыятызм, выглядае цалкам аналагічнай, паколькі супярэчыць тэорыі і практыцы сусветнай царквы. Тое, што рыма-каталіцкая царква ў Беларусі абслугоўвае амаль выключна патрэбы нацыянальнай меншасці і ігнаруе правы большасці вернікаў, не ўводзячы багаслужбы на беларускай мове — беспрэцэндэнтна і з'яўляецца не толькі парушэннем Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, але і Святога пісьма, дзе сказана пра апосталаў у Дзень сашэсця святога духа: —«...бо кожны чуў іх, што гаворыць яго мовaю».

Такім чынам, сёння мы маем у Беларусі дзве кананічныя хрысціянскія царквы, якія абслугоўваюць духоўныя патрэбы нацыянальных меншасцей — расейцаў і палякаў, і ніводнай, якая задавальняла б духоўныя патрэбы нацыянальнай большасці, карэнных жыхароў. Зразумела, што дэмакратычная дзяржава, заснаваная на прынцыпах павагі правоў чалавека, не можа згадзіцца з такім становішчам. Яе абавязак — дапамагчы аднаўленню беларускай аўтакефальнай царквы, беларускага аўтакефальнага касцёла і грэка-каталіцкай царквы. Не павінна яна і дапусціць таго, каб уся царкоўная маёмасць апынулася ў валоданні канфесій, скіраваных на абслугоўванне нацыянальных меншасцей: бо набытак гэты ствараўся агульнаю працаю.

Пры гэтым абавязкова павінны быць захаваны прынцыпы незалежнасці царквы ад дзяржавы і правы нацыянальных меншасцей на нацыянальна-культурную аўтаномію.

Зразумела, што канфесійная палітыка існуючай улады не адпавядае гэтым прынцыпам. Яна наогул мае неакрэслены і няпэўны характар. Часткова гэта тлумачыцца генетычнай сувяззю з былой камуністычнай палітыкай, скіраванай на русіфікацыю беларускага

народу, якая адзначалася такімі рысамі, як імкененне ўсталяваць неабмежаваны нягласны кантроль над духоўным жыццём чалавека, імкненнем скарыстаць стракатую рэлігійную сітуацыю для раскола грамадства. Часткова — складанасцю самой праблемы і непадрыхтаванасцю ўлады да яе вырашэння.

І сёння шмат хто гаворыць, напрыклад; аб агульначалавечых каштоўнасцях. Няма такіх каштоўнасцей. Гэта факт культурнай гісторыі чалавецтва. Нават жыццё чалавека, недатыкальнасць яго асобы, па рознаму ацэньвалася і ацэньваецца ў тыпалагічна розных грамадствах. І колькі б не пратэставала і не абуралася еўрапейская грамадскасць, напрыклад, шырокаю практыкай смяротнага пакарання ў Іране, нічога не пераменіцца, паколькі ў гэтай краіне каштоўнасць соцыума ставіцца вышэй каштоўнасці асобы. Усе грамадствы калектывісцкага тыпу адрозніваліся гэтай прыкметаю. Таму з'яўляецца натуральным існаванне канцэнтрацыйных лагераў у фашысцкай Германіі і ГУЛАГу ў СССР. Трэба зразумець, што гэта — непазбежнасць, а не «памылкі» ці «перагібы».

Тое ж самае датычыцца і такой каштоўнасці, як дэмакратыя, якая грунтуецца на прызнанні роўнасці і паўнаты правоў чалавека незалежна ад полу, адукацыі, сацыяльнага ці маёмаснага становішча, расавай, нацыянальнай ці веравызнаўчай прыналежнасці. Існавалі і існуюць дзяржавы, дзе дэмакратычныя правы асобы абмяжоўваліся па той ці іншай прыкмеце. Іншы раз гэтыя абмежаванні носяць арганічны характар і грунтуюцца на глыбінных культурных традыцыях. Так абстаіць справа з правамі жанчын у краінах фундаменталісцкага мусульманскага накірунку. А другі раз яны вымушаны рэальнай сітуацыяй, імкненнем абараніць сацыяльныя правы большасці насельніцтва. Так, у пасляваеннай Германіі дзейнічала забарона на прафесіі (настаўнікаў, вайскоўцаў) для прыхільнікаў таталітарных ідэялогій. Тое ж самае мела месца і ў Злучаных Штатах Амерыкі. Таму і краіны Усходняй Еўропы, якія вызваліліся з-пад камуністычнага ярма, уводзяць ці плануюць увесці часовыя абмежаванні для прадстаўнікоў буйнай наменклатуры ў праве на заняцце дзяржаўных пасад. Тым больш не з'яўляецца парушэннем правоў чалавека патрабаванне ад дзяржаўных чыноўнікаў добрага валодання дзяржаўнаю моваю і ведання гісторыі свайго народу, як аб гэтым крычаць прадстаўнікі кампрадорскай наменклатуры. Гэтыя патрабаванні ці абмежаванні вынікаюць з прыроды хрысціянскай сістэмы каштоўнасцей, дзе правы соцыума, нацыі з'яўляюцца неад'емнай часткай правоў асобы.

Такім чынам, не трэба шукаць ідэалу ў выглядзе «агульначалавечых каштоўнасцей», ці ўтвараць іх штучна. Гэта небяспечна,

бо ў чарговы раз пагражае адвольным эксперыментатарствам, блуканнем у цемры. Наша гісторыя, наша культурная традыцыя заснавана на хрысціянскім светапоглядзе і хрысціянскіх каштоўнасцях. Менавіта яны ў такія пераходныя крызісныя часы, якія перажывае нашае грамадства зараз, утвараюць кіруючую ідэю, тую пуцяводную ніць Арыядны, трымаючыся якой мы і павінны пракладаць шлях у лепшую прышласць.

## АБ ТРОХ ГАЛОЎНЫХ НАКІРУНКАХ СУЧАСНАЙ ПАЛІТЫЧНАЙ ДУМКІ

### (Даклад на Сойме БНФ «Адраджэнне» 11.09.1992 г. з больш познімі дадаткамі і тлумачэннямі).

Шаноўныя сябры!

Не магу не вярнуцца да ўчарашняй канферэнцыі, наладжанай Фоедам Крыбла. Яна пакінула ў мяне адначасна і радасныя і горкія адчуванні. Радасныя — таму, што вашая актыўнасць, вашае імкненне пранікнуць у сутнасць парадаў адносна перадвыбарчай тактыкі, якія даваў сп. Джон Іксніша, сведчаць пра псіхалагічную гатоўнасць да кампаніі па рэферэндуму. Горкая — таму, што гучалі і пытанні, якія лепш высвятляць у сваім коле, паколькі яны кранаюцца праблем агульнай палітычнай культуры.

Няхай гэтая крытыка не прымусіць Вас адмовіцца ад актыўнасці і цікаўнасці, але заахвоціць працаваць і думаць. Мы не горшыя за іх. Вы маглі ўчора ў гэтым пераканацца, хаця наш палітычны вопыт не такі вялікі, як трэба. Але і не такі маленькі. А галоўнае — ён вынікае з нашых умоў і нашай спецыфікі, якую часта замежным спецыялістам цяжка зразумець.

Тэма сённяшняга даклада — працяг майго паведамлення на чэрвеньскім Сойме. Тады я паспрабаваў даць характарыстыку двум «чыстым» культурна-сацыялагічным тыпам грамадства і светапогляду — калектывісцкаму (сацыялістычнаму) і індывідуалістычнаму (дэмакратычнаму). А таксама разгледзеў гістарычны працэс з пункту погляду барацьбы, змагання, канкурэнцыі гэтых двух светапоглядаў.

Але спыніўся фактычна на стадыі існавання грамадстваў «навуковага сацыялізму» і класічнага капіталізму. Гэта азначае, у пачатку XX стагоддзя. Як жа развівалася далей сусветная палітычная думка і чалавечая гісторыя? У чым сэнс працэсаў, якія адбываліся, пачынаючы з 30-х гадоў? Што ўяўляе сабою сённяшні палітычны спектр?

Нагадаю, што ў 20-х, 30-х гадах таталітарныя рэжымы запанавалі ў СССР, Германіі, Італіі, Іспаніі, Японіі і Партугаліі. Усе яны адмаўлялі дэмакратыю і правы чалавека. Вядучую ролю ад- водзілі планавай эканоміцы і абмяжоўвалі рынак. Гарантавалі сацыяльную абароненасць і малявалі захапляльныя перспектывы. Усе яны мелі дзяржаўную ідэялогію і стваралі кіруючыя касты на падставе вернасці гэтай ідэялогіі. Усе яны праводзілі імперскую палітыку і адмаўлялі правы народаў на самавызначэнне.

Сутыкненне таталітарных рэжымаў з краінамі дэмакратычнага ладу стала непазбежным у канцы 30-х гадоў. Па іроніі лёсу таталітарны блок не захаваў стратэгічнага адзінства, паколькі перамаглі імперскія амбіцыі, а не геапалітычныя інтарэсы. Гістарычнае змаганне паміж таталітарызмам і дэмакратыяй — Другую сусветную вайну — выйграў аб'яднаны блок дэмакратычных дзяржаў, які быў падтрыманы і СССР, пасля нападу на яго Германіі. Таталітарныя рэжымы, паўсюду акрамя СССР, Іспаніі і Партугаліі былі знішчаны. Лёс застаўшыхся гістарычна быў перадвырашаным, паколькі прымусовая планавая эканоміка не мела перспектыў перамагчы ў адкрытай канкурэнцыі рынкавую эканоміку. Спроба застаўшыхся і новых таталітарных рэжымаў, створаных у еўрапейскіх і азіяцкіх краінах з дапамогаю СССР, адгарадзіцца ад сусветнага рынку і канкурэнцыі гаспадарчых сістэм прывялі толькі да павольнай агоніі гэтых рэжымаў, якая суправаджалася паступовым, але няўхільным падзеннем жыццёвага ўзроўню народаў краін «сацыялістычнай арыентацыі». Спачатку з пераліку гэтых краін выпалі Іспанія, і Партугалія, дзе таталітарныя рэжымы трымаліся на аўтарытэце стварыўшых іх лідэраў і рэпрэсійных органах. У канцы 80-х гадоў прыйшла чарга і краін «сацыялістычнага» лагеру, калі збяднеў паток «нафтадаляраў», якія атрымліваліся за распродаж камуністычнымі ўладамі карысных выкапняў і сыравіны — фактычна скарбаў нашых нашчадкаў.

Гістарычная спроба адрадзіць грамадства калектывісцкага тыпу, спроба, за якую еўрапейскія народы заплацілі не дзесяткамі, нават, а сотнямі мільёнаў чалавечых жыццяў і загубленых лёсаў, правалілася. Разам з эканамічным крахам сістэмы прыйшло і працверажэнне ад рамантычнага ачмурэння, якое сістэматычна і мэтанакіравана падтрымлівалася ў грамадскай свядомасці магутным прапагандысцкім апаратам камуністычнай сістэмы. Людзі пачалі разумець, што іх перакананні, іх светапогляд ёсць вынік прадуманай і наўмыснай маны, што іх трымалі ў інфармацыйнай блакадзе, не даючы магчымасці азнаёміцца з тымі палітычнымі працэсамі, якія нарадзіліся ў пасляваеннай Еўропе.

Разам з тым гэтыя канцэпцыі не толькі надзвычай цікавыя, але і надзвычай актуальныя для народаў, якія, вядомыя сляпымі павадырамі, апынуліся, вобразна кажучы, ля разбітай начоўкі і вымушаны сёння разгублена шукаць новыя светапоглядныя арыенціры.

У краінах, якія пасля Другой сусветнай вайны вярнуліся ў рэчышча дэмакратыі, грамадства таксама было пастаўлена перад неабходнасцю выпрацаваць новыя канцэпцыі развіцця. Калектывісцкая ідэалогія была скампраметавана, але яна мела ў свядомасці народаў гэтых краінаў глыбокія карані, грунтавалася ў іх культурных традыцыях. Таму пераход да індывідуалістычнай, ліберальнай ідэалогіі, характэрнай для англасаксонскіх краін-пераможцаў, быў і непажаданым, і немагчымым практычна. Нават сама спроба такога павароту выклікала бурны рост папулярнасці партый сацыял-дэмакратычнага накірунку, якія грунтаваліся на марксісцкім уяўленні аб падзеле грамадства на антаганістычныя класы, што знаходзяцца ў непрымірымай барацьбе паміж сабою. Людзі баяліся, што паслядоўная рэалізацыя прынцыпу свабоды канкурэнцыі прывядзе да сацыяльнай няроўнасці і напружанасці, як было ў XIX стагоддзі, і пазбавіць простага чалавека сацыяльнай абароны. Не дзіва, што аж да сярэдзіны 60-х гадоў палітычная гісторыя Германіі, Францыі, Італіі поўная сацыяльных канфліктаў і страйкавай барацьбы.

У такіх умовах на арэну палітычнай барацьбы ў краінах Заходняй Еўропы выйшлі партыі хрысціянска-дэмакратычнай арыентацыі. Іх ідэалогія грунтавалася на адмаўленні канцэпцыі класавых антаганізмаў. Яна зыходзіла з уяўлення аб грамадстве, як адзіным сацыяльным арганізме, кіруючым прынцыпам для асобных груп якога з'яўляецца супрацоўніцтва, а не барацьба. Яна не прызнавала амаральнай палітыкі, а гэта азначае рэвалюцыю, узброенага захопу ўлады, дыктатур «перадавых класаў». Яна прызнавала правы чалавека, як аснову грамадскай супольнасці, але пашырала гэтыя правы на вобласць сацыяльных гарантый простаму чалавеку. Тым самым адраджаліся галоўныя канцэпцыі хрысціянскага сацыялізму за выключэннем прызнання неабходнасці каставай структуры грамадства і клерыкальнай прыроды дзяржаўнай ідэалогіі. Гэта быў буйны крок у бок прызнання індывідуалістычнага прынцыпу роўнасці людзей.

Так нарадзілася і кансалідавалася палітычная і светапоглядная плынь, якая прызнавала хрысціянскі светапогляд сваёй ідэялогіяй, але насіла выключна свецкі характар. У спектры палітычнай думкі хрысціянска-дэмакратычныя партыі і саюзы, а таксама

народныя і кансерватыўныя партыі еўрапейскіх і лацінаамерыканскіх краін занялі месца паміж лібералізмам і сацыял-дэмакратыяй, альбо ў адпаведнасці з прынятаю ў Еўропе класіфікацыяй, утварылі права-цэнтрысцкую палітычную плынь. Была выпрацавана іерархія сацыяльных каштоўнасцей, якою кіруюцца хрысціянскія дэмакраты ў сваёй палітычнай практыцы. Гэта:

1. Правы чалавека, яго годнасць, якая выражаецца ў асабістай свабодзе і адказнасці перад самім сабой.

2. Прынцып салідарнасці, які сцвярджае, што грамадства і ягоныя члены ўзаемазвязаны і адказваюць адзін за аднаго.

3. Прынцып субсідзіарнасці, або сцвярджэнне перавагі правоў індывідыума (і парпарадкаванай супольнасці) ў параўнанні з правамі вышэйстаячай супольнасці. Ён выключае магчымасць падаўлення большасцю меншасць грамадства.

4. Агульнае дабро, як праява ўсеагульнай справядлівасці ў межах дзяржавы і як справядлівы пачатак у дачыненнях грамадзян паміж сабою.

Усе гэтыя прынцыпы, акрамя прынцыпа субсідзіарнасці, не патрабуюць тлумачэння з-за сваёй відавочнасці. Што ж датычыцца субсідзіарнасці, то яна, зразумела, не азначае дыктату меншасці над большасцю, як не азначае ўседазволенасці тое, што правы асобы стаяць у галаве іерархіі каштоўнасцей. З яе вынікае толькі тое, што правы асобы, якія належаць да падпаракаванай супольнасці, павінны быць не меншымі, чым правы тых, хто складае большасць.

Лепш за ўсё сутнасць гэтага прынцыпу праілюстраваць на прыкладзе правоў нацыянальнай меншасці. Калі яна мае сваю тэрыторыю, то адпаведна мае права на аўтаномію, на стварэнне сваёй сістэмы мясцовага самакіравання, на адукацыю ў нацыянальнай школе і нават, сваю дзяржаўную мову, як гэта мы бачым на прыкладзе Швейцарыі, Фінляндыі, Бельгіі ды Канады. Калі ж нацыянальная меншасць не з'яўляецца аўтахтоннай і яе прадстаўнікі жывуць побач з людзьмі карэннай нацыянальнасці, то яна мае права на нацыянальна-культурную аўтаномію — на газеты, школы, тэатры, якія працуюць на яе мове, але ж мова ніякай групы насельніцтва, акрамя большасці, не можа быць другой дзяржаўнай, бо інакш будуць уціскацца правы асобы людзей усіх астатніх нацыянальных груп.

Хрысціянска-дэмакратычныя партыі адразу пасля Другой сусветнай вайны атрымалі значную падтрымку ў грамадстве краін, якія вызваліліся з-пад таталітарных рэжымаў — у Германіі і Іта-

ліі. Гэтая падтрымка тлумачылася не толькі натуральным адмаўленнем з боку большасці насельніцтва калектывісцкай ідэялогіі тых партый, якія прывялі свае народы да нацыянальнай катастрофы, але і тым, што хрысціянска-дэмакратычная канцэпцыя грамадства, сацыяльная палітыка ў значна большай ступені, чым класічны лібералізм, улічвала сацыял-культурныя традыцыі гэтых краін, глыбокую ўкаранёнасць у свядомасці людзей прынцыпаў роўнасці магчымасцей і сацыяльнай абароненасці.

Так утварыўся сучасны палітычны спектр у грамадскім жыцці дэмакратычнага свету. На самым левым яго фланзе знаходзяцца камуністычныя партыі. Побач з імі сацыялістычныя, у тым ліку і нацыянал-сацыялістычныя. Гэта левы накірунак палітычнай дзейнасці, які вядзе да дзяржаўнага рэгулявання эканомікі, стварэння карпаратыўнага (альбо каставага) грамадства, падаўляе плюралізм думак і выкарыстоўвае дэмакратычныя механізмы выключна як фармальны сродак утрымання ўлады, цалкам пазбаўляючы іх палітычнай сутнасці. Партыі гэтага накірунку, даволі папулярныя ў сярэдзіне бягучага стагоддзя, зараз імкліва губляюць народную падтрымку і выраджаюцца ў сектанцкія групоўкі, якія не грэбуюць нават тэрарыстычнымі метадамі. Гэта маргінальны накірунак, рэальная палітычная практыка якога добра вядомая па прыкладу былога СССР, і які не мае палітычнай перспектывы ў сённяшнім свеце.

Больш жыццёздольнымі з'яўляюцца партыі сацыял-дэмакратычнага кшталту. Яны таксама прапагандуюць грамадскі лад калектывісцкага тыпу, грунтуюцца ў значнай ступені на марксісцкай догме, але з'яўляюцца парламенцкімі партыямі і побач з класавымі інтарэсамі прызнаюць правы асобы, свабоду выбара. У палітычным сэнсе гэта партыі левацэнтрысцкага накірунку. Прызнаючы дэмакратыю, як натуральную форму існавання супольнасці свабодных людзей, яны захоўваюць і масавую падтрымку і палітычныя перспектывы. Так, напрыклад, самая вялікая фракцыя ў Еўрапарламенце — сацыял-дэмакраты. Шмат у якіх краінах (Швецыя, Іспанія ды інш.) яны стаяць ва ўладзе. Міжнароднае аб'яднанне сацыял-дэмакратычных партый бярэ пачатак з ІІ Інтэрнацыянала, які спрабаваў разбурыць У. І. Ленін.

Цэнтрысцкі і права-цэнтрысцкі накірунак маюць народныя і хрысціянска-дэмакратычныя партыі, папулярнасць якіх няспынна расце, пачынаючы з 40-х гадоў. Сёння ў Еўрапарламенце хрысціянска-дэмакратычная фракцыя другая па вялічыні, але палова краін Еўрапейскай супольнасці (6 з 12) маюць урады, утвораныя гэтымі партыямі. У 60-х гадах паўстаў Інтэрнацыянал Хрысціянскай

Дэмакратыі, які аб'ядноўвае адпаведныя партыі Еўропы і Лацінскай Амерыкі.

Правы фланг палітычнага спектру займаюць партыі ліберальнай арыентацыі. Найбольш яскравы прыклад краіны ліберальнай дэмакратыі — Злучаныя Штаты Амерыкі. Уплыў ліберальных партый у Еўропе адносна невялікі. Выключэнне складаюць Швейцарыя, пратэстанцкія краіны паўночнай Еўропы, але і там яны часта саступаюць уладу партыям сацыял-дэмакратычнага накірунку. Сённяшні лібералізм у палітычнай практыцы не з'яўляецца «чыстым» культуралагічным тыпам грамадства. У адрозненне ад таго, што патрабуе тэорыя лібералізму і што было фактычна рэалізавана ў ЗША на працягу канца XVIII—пачатку XX ст.ст. Пад уплывам калектывісцкага светапогляду і грамадзянскіх канфліктаў у Еўропе ён распрацаваў свае механізмы сацыяльнай абароны, чаго раней не было. Партыі гэтага накірунку аб'ядноўваюцца трэцяй сусветнай арганізацыяй — Ліберальным Інтэрнацыяналам.

Існуюць таксама палітычныя накірункі сінкрэтычнага, змешанага характару, як, напрыклад, анархізм. Прызнаючы свабоду і роўнасць людзей, ён аднак ставіць акцэнт на адмаўленні дзяржаўнай улады і лічыць натуральнаю формаю самаарганізацыі грамадства абшчыну, карпарацыю. Таму вобразна яго можна вызначаць як лібералізм, хворы на сацыялізм, альбо сацыялізм хворы на лібералізм. Мы не будзем разглядаць гэты накірунак, паколькі анархізм ніколі і нідзе не быў пануючай ідэалогіяй.

Такім чынам, у сучаснай палітычнай рэальнасці існуюць тры галоўныя плыні — сацыял-дэмакратыя, хрысціянская дэмакратыя і лібералізм. Каб больш наглядна прадэманстраваць розніцу ў гэтых накірунках мы разгледзім, якія адказы даюць партыі пералічаных тыпаў на шэраг важных грамадска-палітычных праблем.

**1. Эканамічная сістэма.** Эканамічная сістэма ў вырашальнай ступені залежыць ад формы ўласнасці. Натуральна, што партыі ліберальнага накірунку ставяць рашучы акцэнт на прыватнай форме ўласнасці, разглядаючы яе як адзіна магчымую, як гарант свабоды і гаспадарчага прагрэсу. Дзяржаўную ўласнасць яны прымаюць толькі як непазбежнае зло, абумоўленае самім фактам неабходнасці дзяржавы. У краінах з грамадствам ліберальнага тыпу да дзяржаўнай адносіцца вайсковая маёмасць, частка сродкаў камунікацыі, інфармацыі, сістэмы адукацыі і сацыяльнай абароны. Пры гэтым яна нідзе, акрамя войска, не з'яўляецца адзінаю формаю ўласнасці і часта складае нязначную долю ад агульных выдаткаў грамадства на пералічаныя мэты.

З другога боку, сацыял-дэмакратыя, не адмаўляючы прыватнай уласцнасці, выступае за павелічэнне долі дзяржаўнай, бачачы ў развіцці калектывісцкіх форм маёмасці гарантыю сацыяльнай стабільнасці і мэтанакіраванага грамадзянскага прагрэсу. Таму ў пасляваенныя гады пры пераходзе ўлады ад ліберала ў да сацыял-дэмакратаў ці наадварот у краінах Заходняй Еўропы адбывалася то нацыяналізацыя, то прыватызацыя цэлых галін вытворчасці — цяжкай металургіі, энергетыкі, транспарту. Пры гэтым нацыяналізацыя заўсёды вяла да зніжэння канкурэнтаздольнасці нацыяналізаваных прадпрыемстваў і запавольванню тэхнічнага прагрэсу. У апошнія часы, адмовіўшыся ад палітыкі нацыяналізацыі, сацыял-дэмакратыя арыентуецца на акцыяніраванне буйных вытворчасцей з гарантаваннем удзелу працоўнага калектыву ў кіраванні прадпрыемствамі. Падтрымлівае сацыял-дэмакратыя і развіццё кааператываў.

Хрысціянская дэмакратыя таксама, як і лібералізм, лічыць вядучай формай уласнасці прыватную. Але падтрымлівае разнастайныя формы калектыўнай уласнасці — сямейнай, кааператыўнай, муніцыпальнай. Ідэя народнага капіталізму, г. зн. стварэння вялікай колькасці дробных прыватных і сямейных прадпрыемстваў, а таксама ператварэнне наёмных працаўнікоў ва ўласнікаў шляхам акцыяніравання буйных кампаній, таксама хрысціянска-дэмакратычная. Рэалізацыя гэтай ідэі ў краінах свабоднага свету за апошнія 20 год істотна памяняла структуру грамадства, утварыўшы вялікі пласт дробных уласнікаў, што не толькі сцішыла сацыяльныя супярэчнасці, але і спрыяла далейшаму гаспадарчаму прагрэсу, паколькі выявілася значна большая дынамічнасць, гнуткасць, гатоўнасць да выкарыстання навукова-тэхнічных дасягненняў малога бізнесу ў параўнанні з буйнымі кампаніямі.

Акрамя гэтага хрысціянска-дэмакратычная прапаганда спрыяла перамене ў грамадстве стаўлення да прадпрымальніка. Стэрэатып у адносінах да капіталіста, як да супермэна, уладара жыцця, ворага шэраговага працаўніка, які падтрымліваўся з аднаго боку лібералізмам, з другога — сацыял-дэмакратамі, паступова быў разбураны. Была паказана сапраўдная роля прадпрымальніка, якая не зводзіцца выключна да капіталаўкладання, фінансавання вытворчасці. Ён адыгрывае таксама сацыяльна важныя функцыі ініцыятара, арганізатара вытворчасці, збірае і апрацоўвае разнастайную інфармацыю і, ў рэшце рэшт, нясе ўсю адказнасць за непамыльнасць прынятых рашэнняў. Усведамленне таго, што гэткая разнастайная дзейнасць можа ажыццяўляцца без парушэння хрысціянскай маралі і быць скіраванаю на агульнае дабро — вялікая заслуга хрысціянскай дэмакратыі.

Усе разглядаемыя накірункі грамадска-палітычнай думкі лічаць рынак адзінаю эфектыўнаю формаю рэгулявання народнай гаспадаркі. Аднак выяўляюць розныя падыходы да ступені дапушчальнага ўмяшальніцтва ў рынкавыя адносіны з боку дзяржавы асабліва, што датычыцца ўнутранага рынку. Так, лібералізм лічыць ідэальным свабодны рынак, калі ўмяшальніцтва дзяржавы абмежавана выключна сферай падаткавай палітыкі, і выступае за мінімальны працэнт падаткаабкладання.

Сацыял-дэмакратыя, якая лічыць магчымым існаванне цэлых галін вытворчасці, заснаваных на дзяржаўнай форме ўласнасці, выступае за прагрэсіўны падаходны налог і больш высокія працэнты падаткаабкладання, а таксама дапускае рэгуляванне цэнавай палітыкі з боку дзяржавы.

Канцэпцыя хрысціянскай дэмакратыі, якая фармулюецца, як сацыяльная рынкавая гаспадарка, і ў гэтым пытанні займае прамежкавую пазіцыю, у адпаведнасці з якою ўмяшальніцтва дзяржавы павінна быць скіравана на забеспячэнне роўных умоў для дзейнасці прадпрыемстваў розных формаў уласнасці і розных памераў. Так, яна падтрымлівае канцэпцыю прагрэсіўнага падаткаабкладання, абмежавання крэдытнага працэнта, але выступае супраць дзяржаўнага рэгулявання цэнаў.

Рынак перастае быць свабодным, калі ўзнікае манаполія. Цікава, што першае антыманапольнае заканадаўства ўзнікла ў краінах ліберальнага тыпу. Калектывісцкі светапогляд ставіцца да манаполіі значна больш цярпіма, больш таго, у планавай гаспадарцы манапалізм — непазбежная з'ява. У. І. Ленін бачыў ва ўзнікненні манаполій і імперскім падзеле рынка ў канцы XIX—пачатку XX ст. прыкмету хуткага пераходу да планавай, размеркавальнай гаспадаркі. Аднак, жыццё паказала, што канцэнтрацыя і манапалізацыя вытворчасці не вядзе, як чакала сацыял-дэмакратычная думка, да зніжэння выдаткаў і паскарэння тэхнічнага прагрэсу. Наадварот, рост бюракратычнага апарату і знікненне стымулаў да прагрэсу з-за адсутнасці канкурэнцыі вельмі хутка вядуць да стагнацыі і росту грамадска-неабходных выдаткаў на выраб манапалізаванай прадукцыі, да дэфіцыту, спекуляцыі і г. д.

Найлепшым сродкам барацьбы за вольны рынак якраз і з'явілася сацыяльная палітыка хрысціянскай дэмакратыі, скіраваная на падтрымку мелкатаварнай вытворчасці. Згаданы вышэй прынцып абмежавання крэдытнага працэнта адыгрывае тут значную ролю, паколькі памяншае верагоднасць банкруцтва і дае магчымасць для хуткага прыстасавання да патрабаванняў рынку. Крэдытная палітыка лібералізму — гэта адмова абмежавання крэдыт-

нага працэнту, а сацыял-дэмакратыі — дапушчэнне ільготнага крэдытавання.

Усе разглядаемыя тыпы палітыкі дапускаюць рэгуляванне дзяржаваю знешнеэканамічных сувязей праз мытныя падаткі ў мэтах абароны ўнутранага рынку.

Разам з тым яны прынцыпова выступаюць за ўмацаванне сусветнага рынку. Аднак аб'яднанне нацыянальных рынкаў у агульную прастору, як паказвае навейшая палітычная практыка, адбываецца толькі пасля дасягнення краінамі дастаткова высокага ўзроўню гаспадарчага рзззвіцця і пры захаванні механізмаў абароны нацыянальнай гаспадаркі. Адным з найбольш эфектыўных сродкаў абароны з'яўляецца нацыянальная валюта. Таму ў бліжэйшай перспектыве не прыходзіцца чакаць утварэння агульнай манетарнай сістэмы, хаця існуюць такія тэндэнцыі, папулярныя ў краінах з канкурэнтаздольнай эканомікай.

**2. Дзяржава і грамадства.** У адпаведнасці з ліберальным светапоглядам, грамадства — гэта сукупнасць роўных у прававых адносінах асоб, інтарэсы якіх носяць выключна індывідуальны характар. З такога ўяўлення атамізаванасці грамадства вынікае і ліберальная тэорыя дзяржавы. Дзяржава і яе органы ствараюцца выключна для вырашэння тых праблем і задавальнення тых інтарэсаў грамадзян, адносна каторых маецца агульная згода. Прыкладам такіх праблем з'яўляецца абарона і знешняя палітыка. Унутры краіны — абарона правоў чалавека. Такія прывычныя для нас функцыі дзяржавы, як культурная палітыка альбо сацыяльная абарона, па якіх у ліберальным грамадстве немагчыма чакаць агульнай згоды, перадаюцца на ўзровень мясцовай улады, альбо грамадскім аб'яднанням, альбо прыватным асобам.

Найлепшай палітычнай формаю дзяржавы, якая адпавядае ліберальнаму светапогляду, з'яўляецца дэмакратыя. І менавіта гэтаму светапогляду належыць і распрацоўка канцэпцыі прававой дзяржавы і галоўных прынцыпаў арганізацыі дэмакратычнага дзяржаўнага механізму. Агульна прынятымі ў сучасным свеце з'яўляюцца фундаментальныя прынцыпы дэмакратыі — вяршэнства закона над любымі органамі ўлады, падзел уладаў адна ад адной, і ўсеагульнае прамое выбарчае права, шляхам рэалізацыі якога і ствараюцца прадстаўнічыя органы ўлады.

Сама ідэя прававой дзяржавы і асноватворчыя прынцыпы дэмакратычнага палітычнага ладу скіраваны, як лёгка заўважыць, супраць узурпацыі ўлады адной асобай ці групай асоб, як бы яна не называлася — класам, саслоўем, лепшымі грамадзянамі. Яе мэта — гарантаваць людзям выкананне вялікага прынцыпа роўнасці.

Само сабой зразумела, што і сацыял-дэмакратыя і хрысціянская дэмакратыя прызнаюць пералічаныя палітычныя прынцыпы. Розніца ў іх падыходах да ролі дзяржавы ў грамадскім жыцці вынікае з адрознага ад лібералізму ўяўлення аб самім грамадстве.

Чалавек, бясспрэчна, сацыяльная істота. Чалавечая культура стваралася сацыяльнымі арганізмамі. Таму ўяўленне аб атамізаванасці соцыума ёсць толькі першае прыбліжэнне да разумення праблем існавання чалавечай супольнасці. І сацыялісты, і хрысціяне лічаць непазбежным структураванне любога дастаткова высокаразвітога грамадства. Таму ролю дзяржавы бачаць не толькі ў гарантаванні правоў асобы, але і ў аптымізацыі сацыяльнай структуры, розначыся паміж сабою толькі ў метадах гэтай аптымізацыі.

Крыніцаю сацыяльнай і дзяржаўнай палітыкі сацыял-дэмакратыі з'яўляецца марксісцкае вучэнне аб падзеле грамадства на класы з антаганістычнымі інтарэсамі і змаганні гэтых класаў паміж сабою. І хаця сучасная сацыял-дэмакратыя і адмовілася ад натуральных вынікаў гэтага пасылу—дыктатуры пралетарыята і стварэння размеркавальнай планавай гаспадаркі, яна заўсёды выступае як палітычны прадстаўнік класа, які эксплуатуецца і, адпаведна, разглядае дзяржаву, як рэгулятар класавых адносін, які можа карыстацца метадамі прымусу, абапіраючыся на волю большасці ў грамадстве.

У адрозненне ад гэтага, хрысціянская дэмакратыя разглядае грамадства як сацыяльны арганізм, асобныя часткі якога могуць і павінны працаваць на агульнае дабро. Ідэя змагання тут выціскаецца ідэяй супрацоўніцтва, а роля дзяржавы выглядае не як роля чыноўніка, але роля доктара, які імкнецца падтрымаць здароўе пацыента. Лекі, зразумела, могуць быць горкія, але яны не павінны несці шкоду ўсяму арганізму.

Гэтая ідэя сацыяльнага партнёрства не такая простая, як ідэя індывідуалізму ці класавай барацьбы. Яна грунтуецца не толькі на індывідуалістычнай канцэпцыі самакаштоўнасці асобы і не толькі на класавай салідарнасці, але і на годнасці асобы, павазе да інтарэсаў кожнага. Відавочна, што гэтая больш высокая і альтруістычная ідэалогія вынікае з хрысціянскага светапогляду.

Апісаныя погляды і падыходы да ролі дзяржавы ў грамадскім жыцці замацоўваюцца ў палітычнай практыцы і, перш за ўсё, у структуры і дзейнасці адпаведных палітычных партый. У Злучаных Штатах Амерыкі — краіне класічнага лібералізму — і рэспубліканская, і дэмакратычная партыі не маюць сталай сацыяльнай апо-

ры ў адпаведнасці з высокай ступенню атамізаванасці грамадства. Яны не маюць сталай структуры, фіксаванага членства. Дзейнасць іх ажывае толькі пад час выбарчых кампаній. Дэмакраты маюць лёгкую сацыялістычную, а рэспубліканцы лёгкую кансерватыўную ліберальную афарбоўкі. Таму электарат іх не сталы, за выключэннем толькі пэўных груп насельніцтва. Так, напрыклад, негры звычайна галасуюць за дэмакратаў, урад якіх нясе больш сацыяльных гарантый для бяднейшых слаёў насельніцтва. Уплывовая габрэйская абшчына галасуе за таго, хто паабяцае большую падтрымку Ізраілю і г. д.

Уплыў сацыял-дэмакратыі ў еўрапейскіх краінах грунтуецца на добра арганізаваных і стабільных партыях, якія карыстаюцца сталаю падтрымкаю пэўных сацыяльных груп. Інтарэсы партыі і адпаведных слаёў насельніцтва для сацыял-дэмакратаў вышэйшы закон. Моцнаю апораю для іх з'яўляюцца прафсаюзы, абароне правоў каторых сацыял-дэмакратыя аддае шмат увагі.

Хрысціянска-дэмакратычныя партыі вельмі часта карыстаюцца назовам народная, альбо, нават, не партыя, а саюз, рух, што сведчыць і аб большай рыхласці партыйных арганізацый і аб іх арыентацыі на ўсе слаі грамадства. У сваёй дзейнасці хрысціянская дэмакратыя абапіраецца ў першую чаргу на грамадскія аб'яднанні моладзі, жанчын, прадпрыймальнікаў, рабочых, якія прызнаюць хрысціянскую мараль і сацыяльнае вучэнне асноваю светапогляду. Падыход хрысціянскай дэмакратыі да грамадства, як да складанай іерархічна арганізаванай супольнасці, паспрыяў у пасляваеннай Еўропе значнаму ўзбагачэнню і разнастайнасці грамадска-палітычнага жыцця.

**3. Ідэялогія і грамадскае жыццё.** Звязуючым, арганізуючым пачаткам любога грамадства з'яўляецца пануючая ідэялогія, светапогляд. Раней мы разгледзелі гістарычны працэс утварэння трох галоўных накірункаў сучаснай грамадска-палітычнай думкі. Засталося толькі ахарактарыхаваць вынікі, рэальны стан духоўнага жыцця ў краінах рознай палітычнай арыентацыі.

Згадвалася ўжо раней, што веравызнаўчаю асноваю ліберальнага светапогляду з'яўляецца пратэстантызм. Адзначым толькі два з дагматычных палажэнняў гэтага накірунку хрысціянства, якія на нашу думку, прычыніліся да характэрных асаблівасцей духоўнага жыцця ў грамадстве ліберальнага тыпу. Гэта дагматы аб апраўданні вераю і аб перадвызначанасці. Апошні характэрны толькі для кальвініцкіх накірункаў пратэстантызму, якія пашыраны, напрыклад, у ЗША.

Дагмат аб апраўданні чалавека асабістаю вераю вёў да адмаўлення царкоўнай арганізацыі, яе кантролю над працэсамі выхавання і адукацыі, духоўным жыццём народу. Натуральным вынікам змагання пратэстанцкіх веравызнанняў з кананічным хрысціянствам сталі такія агульнапрынятыя ў дэмакратычных краінах прынцыпы, як аддзяленне царквы ад дзяржавы і роўнасці ўсіх веравызнанняў у грамадстве, секулярызацыя навукі, адукацыі і ўсіх відаў мастацтва.

Дагмат аб перадвызначанасці, наканаванасці лёсу кожнага чалавека, паспрыяў да змякчэння сацыяльнай напружанасці ў перыяд ранняга капіталізму і прывёў да ўкаранення ў сацыяльнай псіхалогіі гранічнага індывідуалізму, адмовы прынцыпу сацыяльнай адказнасці асобы, да ўтварэння раз'яднанага, атамізаванага грамадства, дзе кожны сам па сабе.

Веравызнаўчая пратэстанцкая рэвалюцыя прывяла не толькі да істотных перамен у менталітэце грамадства, яго духоўным жыцці, але і цалкам памяняла ролю мастацтва. Праграмнае, мэтанакіраванае ў выхаваўчым сэнсе, высокаэстэтычнае мастацтва, якое падтрымлівалася царквою і арыстакратыяй у пратэстанцкіх краінах, памерла. Яно стала замяшчацца індывідуалістычным мастацкім рамяством, якое падпарадкоўвалася тым жа самым законам рынку, як і іншыя сферы вытворчасці. Змяніліся сацыяльны заказчык і крыніцы фінансавання мастацкай дзейнасці. Яна стала арыентавацца на густы і патрабаванні буржуазіі (мяшчан). Пастулова ў гэтым мастацтве запанавалі самыя непатрабавальныя густы, што і прывяло да ўзнікнення поп-арта—таннага, масавага і прымітыўнага віда мастацкай дзейнасці, разлічнага толькі на тое, каб паказытаць нервы. Не дзіва, што ў еўрапейскіх краінах, якія захавалі традыцыі высокапрафесійнага і сацыяльна адказнага мастацтва, распаўсюджанне агрэсіўнай масавай культуры выклікала ў пасляваенныя гады грамадскі пратэст і цэлую сістэму дзяржаўных мер па абароне сваёй нацыянальнай культуры. Не дзіва і тое, што многія дзеячы мастацтва з былога СССР, якія былі выхаваны ў традыцыях класічнага мастацтва, вельмі лёгка заваёўвалі вялікую папулярнасць у ЗША, дзякуючы свайму прафесіяналізму.

Ідэялогія і культурная палітыка хрысціянскай дэмакратыі не патрабуе такой разгорнутай характарыстыкі, паколькі яна загрунтавана на кананічным хрысціянстве, якое значна лепш знаёмае нашаму чытачу. Прызнаючы выхаваўчую ролю мастацтва і неабходнасць падтрымкі культурнай традыцыі хрысціянская дэмакратыя прызнае ролю дзяржавы і грамадскай супольнасці ў духоўным жыцці народа. Пасля вайны ў еўрапейскіх краінах былі затрача-

ны вялікія сродкі на аднаўленне і рэстаўрацыю гістарычных помнікаў, якія былі разбураны альбо стаялі закінутымі. Былі адроджаны многія традыцыйныя мясцовыя святы-фестывалі, а агульнахрысціянскія — Вялікдзень і Каляды — сталі дзяржаўнымі.

Вельмі цікавую з'яўляецца практыка стварэння новых традыцый, такіх як спеўныя, тэатральныя ды кінафестывалі, дзе вызначаюцца лепшыя дасягненні года ў мастацтвах, якія маюць масавы характар. Пры гэтым акцэнт ставіцца на адборы лепшых твораў, які робіцца прызнанымі аўтарытэтамі. У адрозненне ад таго, што мы бачым, напрыклад, у Галівудзе, дзе крытэрыямі з'яўляецца касавы поспех фільма ды індывідуальныя дасягненні рэжысёра, апаратара, сцэнарыста, акцёраў.

Пабываўшы нядаўна ў Бельгіі, я быў здзіўлены строгасцю, амаль рыгарычнасцю тэлепраграм, якіх там 15. Ніякага культу жорсткасці, эротыкі, разбэшчанасці — ўсяго таго, пра што можна было прачытаць у савецкай прэсе. Высветлілася, што характар тэлепраграм кантралюецца ўплывовым грамадскім камітэтам, які можа ўзбудзіць судовую справу супраць тэлекампаніі, калі яе перадачы наносяць шкоду грамадскай маралі альбо выхаванню маладога пакалення. Ці можна сумнявацца ў тым, што камітэт на 100% выйграе такую справу, бо прысяжныя ў судзе — гэта тыя ж грамадзяне, чыю думку камітэт адлюстроўвае.

У святочныя дні, штотыдзень, на вуліцах старой часткі гораду адбываюцца масавыя гулянні. Граюць невялікія аркестры, альбо асобныя музыканты, мастакі малююць проста на асфальце. Тут жа са шматлікіх латкоў, у невялічкіх крамах прадаюць сувеніры, мастацкія вырабы і, зразумела, піва, ваду, прысмакі. Аднойчы, каля поўдня, давялося мне апынуцца на пешаходнай вуліцы ў цэнтры Бруселя. Над натоўпам, які расцякаўся па крамах, што займалі спрэс памяшканні першых паверхаў, гучала арганная меса Баха.

Магчыма, што гэта не лепшы варыянт прапаганды класікі. Але ўлічваючы, што ў Заходняй Еўропе колькасць людзей, якія рэгулярна наведваюць багаслужбу, працягвае падаць, нельга не адначыць, што дзяржава, грамадская супольнасць робяць усё магчымае, каб не парвалася повязь часу, каб бруілася жыватворная крыніца культурнай традыцыі.

Індэферэнтнае, а часам атэістычнае, стаўленне прыхільнікаў сацыял-дэмакратыі да рэлігіі вызначае і адметнасці сацыял-дэмакратычнай культурнай палітыкі. Яна адрозніваецца падтрымкай у першую чаргу свецкай і грамадска-актыўнай мастацкай дзейнасці, талерантнасцю ў адносінах да масавай культуры ліберальнага

тыпу. Наогул, духоўная культура займае адносна невялікае месца ў дзейнасці сацыял-дэмакратычных партый. У адрозненне, напрыклад, ад вялікай увагі, якая надаецца падтрымцы навукова-тэхнічнага прагрэсу.

**4. Сацыяльная абароненасць.** Класічны лібералізм не надаваў гэтай праблеме ніякай увагі. Дапускалася выключна прыватная дабрачыннасць ды намаганні рэлігійных груповак. Выразным прыкладам тут з'яўляецца дзейнасць Арміі выратавання, якая апекавала начлежкамі, бясплатнымі сталоўкамі для старых, інвалідаў, беспрацоўных.

Але пад уздзеяннем грамадскіх канфліктаў у еўрапейскіх краінах у краінах класічнага лібералізму за апошнія паўстагоддзя была выпрацавана свая арыгінальная сістэма сацыяльнай абароны. Яе кіруючы прынцып можна сфармуляваць так «зарабі сабе сам». Па гэтаму прынцыпу арганізаваны сістэмы пенсійнага забеспячэння і страхавой медыцыны. Таксама як і шырока ўкаранёная практыка доўгатэрміновага крэдытавання на набыццё жытла і каштоўнага бытавога абсталявання. Такая практыка жорстка крытыкавалася камуністычнай прапагандай. Разам з тым нельга не прызнаць, што яна не толькі стварае лёгкадаступную магчымасць для маладых людзей пачынаць сваё працоўнае жыццё ў прыстойных умовах, але і змяншае цякучасць працоўнай сілы, пагрозу страйкаў і вытворчых канфліктаў. Хаця, безумоўна, абмяжоўвае свабоду выбара чалавека. Да таго ж яна дзейная ў сітуацыі, калі прапанова перавышае попыт, чаго зразумел няма ў краінах з разбуранаю альбо слабаю гаспадаркаю.

Сацыял-дэмакратычная палітыка сацыяльнай абароны носіць выразныя прыкметы ўраўнілаўкі. Вялікая роля адводзіцца дзяржаве, якая стварае адпаведныя фонды за кошт падаткаабкладання вытворчасці. Стварэнне бясплатнай сістэмы адукацыі, медыцынскага абслугоўвання ёсць мэта гэтай палітыкі, цалкам натуральная для партый, якія лічаць сваёю базаю найменш забяспечаныя слаі грамадства. Адваротным бокам такой пілітыкі з'яўляецца абніжэнне ўзроўня адпаведных паслуг (медычных, адукацыйных) і адмоўны ўплыў на сферу вытворчасці высокіх падаткаў, неабходных для яе фінансавання.

Падыход народных і хрысціянска-дэмакратычных партый у гэтым пытанні бліжэй да ліберальнай канцэпцыі, асабліва ў высокаразвітых краінах. Тым больш, што гэтаму спрыяе эканамічная палітыка, скіраваная на падтрымку мелкатаварнай вытворчасці. Але стабілізуючая роля дзяржавы не выключаецца. Наадварот,

яна бярэ на сябе галоўны цяжар сацыяльнай абароны ў бедных краінах разам з дабрачыннымі фондамі, у стварэнні якіх дзяржава бярэ чынны ўдзел. Перанясенне цяжару такой дзейнасці на фонды забяспечвае мэтанакіраваную дапамогу людзям, якім яна неабходна. Але поспех у дзейнасці такога механізму ў вялікай ступені залежыць ад маральнасці персаналу фондаў.

**5. Нацыянальнае пытанне.** Пераходзячы да разгляду таго месца, якое займае нацыянальнае пытанне ў сістэме светапоглядных каштоўнасцей і палітычных прыярытэтаў сучасных дэмакратычных партый, трэба зрабіць некалькі агульных заўваг.

Нацыянальнага пытання не існуе ў краінах з монанацыянальным складам насельніцтва. У гэтым выпадку грамадская супольнасць супадае з культурнаю. Іншая справа, калі дзяржава шматнацыянальная. Тады паўстае асабістая і палітычная праблема выбару прыярытэтаў, вырашэнне якой адрозніваецца досыць шырокай варыябельнасцю нават у межах адной ідэалагічнай канцэпцыі.

Асаблівую вастрыню нацыянальнае пытанне набывае для імперый — краін, утвораных сілаю зброі, у пераходныя перыяды іх станаўлення ці распаду. Таму для многіх нашых сучаснікаў сёння яно выглядае ледзьве не найважнейшаю праблемаю. Пры гэтым некаторыя схільныя забываць, як многа людзей зацікаўлена ў стварэнні штучнай міжнацыянальнай напружанасці, асабліва сярод тых, хто губляе з распадам імперыі нешта істотнае для сябе. Дзякуючы дзейнасці такіх людзей канфлікты, якія маюць на самой справе сацыяльную прыроду, набываюць выгляд міжнацыянальных, таму што зацікаўленым групоўкам выгадна маскіраваць свае сапраўдныя інтарэсы інтарэсамі нацыянальнай меншасці. Прыкладаў такога замяшчэння сутнасці грамадскіх канфліктаў у краінах, паўстаўшых на абшарах былога СССР, сёння мы можам знайсці больш чым дастаткова.

Таму ў нацыянальным пытанні сёння шмат блытаніны. Але з яе вынікае адно бясспрэчнае — і нацыяналісты і інтэрнацыяналісты прызнаюць права чалавека на культурную тоеснасць адным з найвышэйшых правоў асобы. І, як слушна вучылі марксісты, чалавек гартуе сваю тоеснасць у нацыянальным па форме культурным асяродку. Такім чынам, нацыянальнае пытанне — гэта пытанне суадносін культурнай і грамадскай супольнасці. Альбо суадносін правоў асобы і правоў грамадства — той самай кардынальнай культуралагічнай апазіцыі — супярэчнасці, якая на маю думку і з'яўляецца рухаючаю сілаю гісторыі.

Зразумела, што як старажытныя цывілізацыі калектывісцкага

тыпу, так і сучаснае грамадства «рэальнага сацыялізму» аддаюць рашучую перавагу інтарэсам дзяржавы, якая для іх увасабляе грамадскую супольнасць. Натуральна, што гэткія дзяржавы заўсёды праводзілі і праводзяць палітыку нівеліроўкі, дэнацыяналізацыі трапіўшых у іх арбіту малых народаў. Калектывісцкі светапогляд — гэта заўсёды шавіністычны светапогляд, незалежна ад таго, кім ён распаўсюджваецца — прадстаўнікамі «старэйшага брата» з Масквы, ці нацыянал-сацыялістамі з Берліну. Дарэчы, германскі нацыянал-сацыялізм дакладней было б назваць сацыял-шавінізмам з-за той рашучай перавагі, якая надавалася гэтай партыяй нацыянальным інтарэсам выключна германскага народу. Такога ж самага вызначэння заслугоўвае і КПСС, якая пад шыльдаю стварэння «новай гістарычнай супольнасці — савецкага народу» праводзіла гвалтоўную палітыку русіфікацыі, добра разлічаную і доўгатэрміновую, якая ўключала ў сябе кадравы кантроль над адукацыяй, навукай і мастацкай культурай. Так, на Беларусі 134 найбольш адказныя пасады пры камуністах замяшчаліся адданымі імперскімі служкамі выключна па прапанове ці са згоды крамлёўскага кіраўніцтва. Сістэма адукацыі русіфікавалася, пачынаючы з дзіцячых садкоў і да ВНУ. А навука і духоўнае жыццё кастрыравалася такім чынам, каб «манкуртызаваць» насельніцтва, пазбавіць яго гістарычнай памяці, самапавагі і пачуцця нацыянальнай годнасці. Гэта сістэма культурнага генацыду пакінула жахлівыя вынікі, пераадолець якія і ёсць мэта БНФ «Адраджэнне».

З другога боку, для класічнага лібералізму характэрна іншая форма «зняцця» нацыянальнага пытання — касмапалітызм. Выдатны прыклад — Паўночная Амерыка. Але гэта фактычна адзіны прыклад наднацыянальнай ліберальнай краіны, які часта блытае прыхільнікаў ліберальнай дактрыны. Больш таго ў XIX стагоддзі многія ліберальныя партыі нараджаліся як нацыянальна-ліберальныя. Шырока вядомыя прыклады Фінляндыі і Швейцарыі, дзе існуе адпаведна 2 і 4 дзяржаўныя мовы, пацвярджаюць хутчэй тую вялікую ролю, што аддае лібералізм нацыянальнай тоеснасці, а зусім не сведчаць аб індэферэнтнасці да нацыянальнага пытання, як часта думаюць, паколькі ў кожнай з дзяржаўных моў у гэтых краінах ёсць свае аўтахтонныя носьбіты.

Калі ж іншамоўных аўтахтонаў у краіне няма, то нягледзячы на моцныя імпульсы з боку ліберальнай эканомікі ніколі і нідзе не паўстае нават пытання аб наданні статусу дзяржаўнай якой-небудзь мове «міжнародных зносін» — ангельскай, нямецкай, французскай ці эсперанта. Больш таго, у гістарычным плане менавіта пратэстанцкія веравызнанні выклікалі, пачынаючы з XVI ст., роск-

віт нацыянальных моў народаў Еўропы, ператварэнне з моў «простых» у мовы навукі, філасофіі, мастацтва.

Таму даволі распаўсюджаная думка, быццам бы лібералізм касмапалітычны па сваёй прыродзе, відавочна памылковая. Касмапалітызм — гэта характарыстыка нацыянальнай палітыкі ліберальных імперый, да разраду якіх відавочна адносяцца ЗША. Гэтым і тлумачыцца дзіўны на першы погляд факт, што Прэзідэнт ЗША Д. Буш не адразу і без усялякага энтузіязму падтрымаў працэс суверэнізацыі рэспублік былога СССР ды СФРЮ. Але і заплаціў за гэта стратай падтрымкі ў час выбарчай кампаніі з боку шматлікай эміграцыі з краін Усходняй і Цэнтральнай Еўропы.

Пазіцыя партый хрысціянска-дэмакратычнай арыентацыі вызначаецца прынцыпам субсідзіарнасці, пра што ўжо было сказана вышэй. Кожная нацыянальная меншасць мае права не толькі на нацыянальна-культурную аўтаномію, але і на падтрымку з боку дзяржавы нацыянальных школ і культурных устаноў. Але толькі аўтахтонная нацыянальная меншасць мае права на дзяржаўнасць сваёй мовы.

Такая блізкасць у падыходах да нацыянальнага пытання з боку ліберальных і хрысціянска-дэмакратычных партый тлумачыцца тым, што хрысціянская дэмакратыя як палітычнае вучэнне склалася на аснове светапогляду рыма-каталіцкай царквы. У сваю чаргу, пратэстантызм, як веравучэнне, адгалінаваўся ад рыма-каталіцкай царквы. Антрапалогія (што азначае вучэнне аб чалавеку) апошняй значна больш распрацаваная, чым у межах усходне-праваслаўных веравызнанняў. Каталіцызм не толькі прызнае недатыкальнай пэўную сферу правоў асобы, але і лічыць неабходным актыўны ўдзел царквы ў грамадскім жыцці, прызнаючы тым самым, што сфера палітыкі не можа быць па-за межамі царкоўных уплываў. Ужо больш 100 гадоў, як сталі з'яўляцца папскія энцыклікі, прысвечаныя разгляду і рэлігійнай ацэнцы многіх актуальных грамадска-палітычных пытанняў і працэсаў. Яны ў значнай ступені і паспрыялі афармланню хрысціянскай дэмакратыі як палітычнай плыні.

Неабходна адзначыць, што ўсходне-праваслаўныя цэрквы, у тым ліку і РПЦ, адрозніваюцца значна большай палітычнай індэферэнтнасцю, абмяжоўваючы свой удзел у грамадскім жыцці звычайнай падтрымкай існуючай улады і скіроўваючы свае намаганні галоўным чынам на справу маральнага ўдасканалення вернікаў. Гэтая канцэпцыя, т. з. цэзарапапізм, што азначае залежнасць духоўнай улады ад свецкай, склалася гістарычна ў Візантыі, але най-

больш паслядоўна была рэалізавана ў Расейскай імперыі. Тут, пачынаючы з Пятра I да 1917 г., наогул адсутнічаў інстытут патрыаршанства, а ўсімі рэлігійнымі справамі займаўся Свяшчэнны Сінод на чале з дзяржаўным службоўцам—оберпракурорам, якога прызначаў імператар. Гэтая адданасць існуючай уладзе захавалася ў РПЦ і да сённяшняга дня. Лёгка заўважыць, напрыклад, што дэпутат Вахрамееў (мітрапаліт Філарэт) звычайна галасуе, як наменклатурная большасць дэпутатаў сённяшняга Вярхоўнага Савету.

Заходняе хрысціянства на працягу тысячы гадоў сярэднявечча прычынілася да стварэння Еўрапейскай супольнасці хрысціянскіх народаў. Папам удалося адстаяць незалежнасць духоўных улад ад уладаў свецкіх. Магчыма па гэтай прычыне імперыі на Захадзе Еўропы ніколі не былі ні доўгатрывалымі, ні такімі жорсткімі, як на Усходзе. І пакуль Беларусь была Еўрапейскай краінай, яна не ведала нацыянальных і веравызнаўчых канфліктаў. Нічога падобнага, напрыклад, на ганенні супраць стараабрадцаў, ці іншых сектантаў у Расеі, у Беларусі не было. Не ведалі мы і мяжы аселасці і габрэйскіх пагромаў. Да таго часу, пакуль не стала наша краіна паўночна-заходняй правінцыяй Расейскай Імперыі.

Нацыянальная і рэлігійная меншасць у Вялікім Княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім, а потым і ў Рэчы Паспалітай карысталіся роўнымі юрыдычнымі правамі, а прадстаўнікі хрысціянскіх канфесій — і палітычнымі. Габрэі і мусульмане карысталіся правамі юрыдычнай і культурнай аўтаноміі. Усё гэта і прывяло да такой нязвыклай для расейцаў талерантнасці і рахманасці беларусаў у пабытовых умовах. Гэтыя якасці, як паказала сучасная гісторыя, вельмі карысныя ў свеце, які губляе былую нацыянальную замкнёнасць. Але яны зусім не пярэчаць і імкненню беларусаў да адраджэння і ўмацавання сваёй нацыянальнай культуры.

Гэта імкненне цалкам адпавядае тым нормам, якія існуюць у цывілізаваным свеце, што я і імкнуўся паказаць у гэтым апошнім раздзеле.

Зразумела, што параўнальны разгляд можна працягваць і далей. Але я спадзяюся, што прыведзеных прыкладаў дастаткова, каб ахарактарызаваць тыя нямногія кардынальныя прынцыпы, якія і ўтвараюць аснову трох галоўных, разгледзеных вышэй, палітычных (і светапоглядных) накірункаў.

Кожны з Вас мае магчымасць самастойна вызначыць, да якой плыні бліжэй палітыка БНФ. Для гэтага дастаткова ўважліва прачытаць нашую Праграму, эканамічную канцэпцыю і іншыя даку-

манты. Але мне здаецца даволі відавочным, што як шырокі фронт, мы маем галоўны накірунак, які не можа не супадаць з хрысціянскай дэмакратыяй — цэнтрысцкім накірункам у сучасным палітычным спектры. Пра гэта гаворыць і актыўная дзейнасць Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі, якая прытрымліваецца прынцыпаў лібералізму, з аднаго боку, і Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады — з другога.

Робячы прыведзены вышэй аналіз, я імкнуўся да максімальнай аб'ектыўнасці і непрадузятасці. Але ўпэўнены, што прыхаваць свае хрысціянска-дэмакратычныя сімпатыі мне не ўдалося. Апраўдвае мяне толькі тое, што я перакананы, як у адпаведнасці прынцыпаў хрысціянскай дэмакратыі нашай традыцыйнай культуры, так і ў найбольшай палітычнай перспектыве гэтай плыні ў будучай дэмакратычнай Беларусі.

## ДЭМАКРАТЫЯ, ЯК МЫ ЯЕ РАЗУМЕЕМ

### (Даклад на Сойме БНФ «Адраджэнне» 13 ліпеня 1991 г.)

Слова дэмакратыя ўтворана са спалучэннем дзьвюх грэцкіх слоў: дэмас — народ і кратыя — ўлада. Яно азначае такую палітычную сістэму, дзе найвышэйшы дзяржаўны закон — воля народу. Здавалася б, усё проста — ўсім вядомыя цывілізаваныя сродкі выяўлення народнай волі. Гэта выбары народных прадстаўнікоў у вярхоўны орган улады, які прымае законы для рэгулявання грамадскага жыцця ў межах краіны і такіх жа прадстаўнікоў у мясцовыя органы ўлады, якія вырашаюць пытанні гаспадарчага жыцця рэгіёну.

Аднак нават у гэтым вельмі спрошчаным накідзе механізму функцыявання дэмакратыі лёгка заўважыць небяспеку, якая ёй пагражае: законы фармуюцца тымі людзьмі, якія абіраюцца... па закону. Так паўстае парочнае кола, якое ў такой жа ступені невырашальнае, як і славуты парадокс — што раней, курыца ці яйка. Прырода ж чалавека недасканалая і заўсёды раней ці пазней з'яўляюцца людзі, якім вельмі карціць так змяніць законы, ці парадак іх ужывання, каб улада пастаянна захоўвалася ў іх руках, ці ў руках іх сваякоў і аднадумцаў. Таму вельмі часта, як сведчыць гісторыя, на глебе дэмакратыі паўставала алігархія — ўлада клана, партыі, саслоўя. Пры гэтым галоўныя каштоўнасці дэмакратыі — свабода, роўнасць грамадзян перад законам і роўнасць іх магчымасцей спляжваліся і пераўтвараліся ў сваю процілегласць — несвабоду, няроўнасць і беззаконне. Усталёўвалася палітычная манаполія, якая вяла да безадказнасці ўладаў, да нахабнага парушэння законаў, ці іх змены на карысць кіруючай праслойкі і ў рэшце рэшт да некампетэнтнасці кіраўніцтва, якая выяўлялася альбо ў развале гаспадаркі, альбо ў маральным заняпадзе, альбо ў ваенным паражэнні, што ў выніку адно і тое ж.

Усе гэтыя прыкметы грамадскага крызісу мы бачым і адчуваем на сабе, на прыкладзе камуністычнай алігархіі. Яна ўчэпіста трымае ўсе кіруючыя рычагі і ні ў якім разе не згодна іх адпусціць

— хоць тут трава не расці! Яна стварыла наменклатуру — тыпова мафіёзную структуру — кола людзей, павязаных паміж сабою агульнай хлуснёй: агульным прававым нігілізмам, агульнымі злачынствамі і агульным страхам адказнасці, які ў апошнія часы цэментуе іх еднасць значна лепш, чым камуністычная ідэялогія.

Але і алігархія не з'яўляецца ўстойліваю палітычнаю формаю. Прадстаўнікі кіруючых кланаў ва ўмовах крызісу вымушаны, як павукі ў банцы, змагацца за аднаасобную ўладу. Так алігархія параджае дыктатуру, альбо, калі яна не носіць абмежаваны ў часе характар—тыранію. Тыран, наогул, адмятае законы і ягоная воля становіцца найвышэйшым законам. У такіх умовах не застаецца нічога немагчымага. Можна сеяць кукурузу за палярным кругам і паварочваць сібірскія рэкі на поўдзень. Становішча чалавека ў такой краіне мала чым адрозніваецца ад становішча дзяржаўнага раба. Жыццё асобы губляе якую-небудзь каштоўнасць, мае значэнне толькі колькасць насельніцтва, а правы чалавека становяцца перашкодаю на шляху здзяйснення рэальных альбо ўяўных планаў.

Тыран, калі яму пашанцуе, можа ўтварыць наследную манархію. Можна смела сказаць, што калі б Сталін быў больш шчаслівым у прыватным жыцці, то краіна Саветаў пераўтварылася б у камуністычную манархію з абіраемым манархам з дынастыі Джугашвілі. Падобна таму, як гэта было на Гаіці, а зараз адбываецца ў КНДР і на Кубе. Ідэялогія пры гэтым не адыгрывае ніякай ролі, акрамя таго, што вызначае кола асоб, якім даверана ажыццяўляць «канстытуцыйнае» афармленне волі тырана.

Дарэчы кажучы, на думку старажытных філосафаў, форма арганізацыі палітычнага ладу грамадства ва ўмовах наследнай манархіі лічылася адной з найлепшых, калі на чале дзяржавы знаходзіўся адукаваны і маральны чалавек. Яна спыняла барацьбу за ўладу, якая характэрная для дэмакратыі і алігархіі, абмяжоўвала палітычныя амбіцыі, спрыяла ўстойлівасці заканадаўства. Стабільнасць у грамадстве вяла да росквіту гаспадарчай дзейнасці і ваеннай магутнасці дзяржавы. Таму ад манархіі — адзін крок да імперыі, з характэрнымі для яе захопамі суседніх краін. Паняволенне цэлых народаў вяло, зразумела, і да далейшага абмежавання правоў грамадзян метраполіі, а разам з тым да замаруджання гаспадарчага ды сацыяльнага развіцця.

Вельмі характэрны ў гэтых адносінах прыклад Брытанскай Імперыі, якая нягледзячы на глыбокія дэмакратычныя і культурныя традыцыі ангельцаў, выгаднае геаграфічнае становішча і шчаслівы гістарычны лёс, здолела прыняць выклік сучаснай цывіліза-

цыі і пераадолець адставанне ў тэмпах тэхнічнага развіцця і росту дабрабыту, толькі пасля роспуску імперскіх структураў.

Такім чынам, характэрны для манархічнай формы ўлады кансерватызм, таксама аказаўся неспрыяльным для нармальнага (вольнага) развіцця грамадства. Таму, нягледзячы на тое, што форма абсалютнай манархіі была пануючай у Еўропе, з XVI ст. распачаўся перыяд дэмакратычных рэвалюцый, якія вярталі ў жыццё асноўныя нормы народаўладдзя.

Зразумела, што гэтае вяртанне адбывалася з улікам таго, што напрацаваў чалавечы розум і гістарычная практыка на працягу тысячагоддзяў. Плён жа гэтай працы зводзіўся галоўным чынам да дзвюх прынцыпаў: падзелу ўлады і неабходнасці маральнага заканадаўства. Прынцып падзелу паміж дэмакратычна абранымі органамі ўлады быў вядомы яшчэ ў старажытнай Рымскай рэспублікі. Яны мелі сенат — вышэйшы заканадаўчы орган, консулаў, якія ўзначальвалі выканаўчую і ваенную ўладу, і Інстытут народных трыбунаў, што ажыццяўляў кантрольныя і судовыя функцыі. Падзел улад вядомы нам і з нашай гісторыі. У Полацкім княстве заканадаўчую ўладу сканцэнтравала веча. Князь, які абіраўся вечам, быў галавою выканаўчай улады. Таксама і ў Рэчы Паспалітай поўнаўладдзе манарха было абмежвана Соймам з яго славутым «ліберум вета» — правам адхілення рашэння голасам аднаго пасла.

Колькі можна прачытаць кпінаў з гэтага «ліберум вета», асабліва ў рускамоўнай гістарычнай літаратуры. Але нельга прыдумаць лепшага механізму абароны інтарэсаў меншасці. І сёння, калі наша грамадства перажывае такі складаны супярэчлівы перыяд, усё часцей гучаць заклікі да кансенсусу (згоды) — ліберум вета навыварат. І калі задумацца пра лёс такіх штучных аб'яднанняў, як СССР ці Югаславія, то здаецца, заканадаўчае замацаванне ліберум-вета — адзіна рэальны шлях да захавання гэтых супольнасцей.

Але прынцып падзелу ўлады таксама аказаўся недастатковым і хрысціянства прынясло з сабою прынцып маральнасці заканадаўства. Раней яно насіла назоў натуральнага права і грунтавалася на глыбокіх светапоглядных перакананнях грамадзян. Гэта цалкам па-за юрыдычны комплекс правоў і прававых нормаў, якія з'яўляюцца крыніцаю для кожнага дэмакратычнага заканадаўства. Гэтыя правы не абмяркоўваюцца і не абмяжоўваюцца, як арганічныя прыродзе чалавека. У гістарычным плане зусім нядаўна кампендыум натуральных правоў быў сфармуляваны і ўхвалёны ААН у выглядзе «Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека»

(1948 г.). І няма лепшага юрыдычнага доказу недэмакратычнасці «савецкай дэмакратыі», чым яе неадпаведнасць гэтай Дэкларацыі.

Акрамя гэтых двух фундаментальных прынцыпаў творцы сучаснай дэмакратыі паспрабавалі аб'яднаць свабоду і роўнасць правоў грамадзяніна з устойлівасцю і эфектыўнасцю выканаўчай улады, характэрнаю для манархіі. Так нарадзіўся Інстытут Прэзідэнцтва. Прэзідэнт-чалавек, якога абірае ўсё насельніцтва, які ўзначальвае выканаўчую ўладу і нясе ўсю адказнасць за вынікі свайго кіравання. Найбольш яркія прыклады прэзідэнцкіх рэспублік даюць ЗША і Францыя. Тыпалагічна да іх блізкія канстытуцыйныя манархіі ў Англіі і Іспаніі. У новых дэмакратычных дзяржавах Германіі і Італіі функцыі прэзідэнта абмежаваны кантролем за выкананнем канстытуцыі, г. з. маральнасці заканадаўства і выканаўчай улады. Прэзідэнцкую форму праўлення выбралі і ўсе новыя дэмакратыі Усходняй Еўропы.

Вяртаючыся ў нашу краіну, трэба зазначыць, што расейскі царызм не паспеў пераўтварыцца ў канстытуцыйную манархію. Яго змяніў тыранічны рэжым Сталіна. Пасля яго смерці барацьба паміж камуністычнымі кланамі і жах перад крывавую дыктатураю прывялі да ўсталявання класічнага алігархічнага рэжыму, які набыў найбольш чыстыя формы пры Брэжневе, калі ад дзяржаўнага пірага рвалі і цягнулі ў свае кішэні ўсе, хто толькі гэтага жадаў. Грамадская мараль была спляжана, а гаспадарка хутка пайшла да свайго развалу. Алігархія — найгоршая форма дзяржаўнага ладу і можна зразумець нават тых старых людзей, якія лічаць брэжнеўшчыну горшай за сталіншчыну. Тады існавала хоць нешта аддалена нагадваючае сцыяльную справядлівасць і злодзеяў часам чакала жорсткае пакаранне. Праўда, такая ацэнка гісторыі характэрна для той меншасці, да якой не дасягвалася крывавая лапа тырана, альбо хто сам карыстаўся з «праскрыпцый» — дармовай працы зняволеных і маёмасці растраляных.

Імкнучыся аздаравіць сістэму камуністычнай алігархіі і спыніць рух да эканамічнага краху М. Гарбачоў увёў некаторыя дэмакратычныя паслабленні. Прайшлі «свабодныя» выбары, але па законах, распрацаваных алігархіяй. Таму мы і атрымалі недзеяздольныя Саветы, якія прымаюць амаральныя законы і нічога не могуць зрабіць з «прывілеямі» наменклатуры, а фактычна супрацьзаконным узбагачэнні пануючага класа. Больш таго, гэты працэс хутка набірае тэмп. І мы толькі глядзім, як сын другога сакратара ЦК КПБ А. Камая залязае ў дзяржаўную кішэню, але схоплены за руку, плаціць штраф у памерах каля 1% ад памеру афёры.

М. Гарбачоў становіцца Прэзідэнтам, але абапіраючыся не на волю грамадзян, а на згоду напалоханых кланаў наменклатуры. Таму выканаўчая ўлада не становіцца ні больш эфектыўнай, ні больш адказнай. Яна па ранейшаму ўсе цяжкасці крызісу перакладае на плечы працоўных, не можа выпрацаваць больш-менш рэальнага плану эканамічнага адраджэння і дасягнення грамадскага міру.

Нашае грамадства, адкінуўшы тыранію, ніяк не можа зрабіць крок у дэмакратыю. Прычына гэтага ў тым, што не пазбаўлена рэальнай палітычнай і эканамічнай улады камуністычная алігархія. Яе існаванне і ёсць адзіная і вычарпальная прычына той небяспекі, якая навісла над нашым народам. Справа ў тым, што гісторыя пазбаўлена перадвызначанасці, як у гэтым нас доўга пераконвалі марксісцка-ленінскія тэарэтыкі. Яна робіцца людзьмі, якім уласціва свабода волі. І ў кожны гістарычны момант існуе магчымасць альбо павярнуць назад да тыраніі, альбо пайсці наперад да дэмакратыі і незалежнасці.

Зараз набліжаецца такі вырашальны момант. Мяркуючы па намерах камуністычнай большасці ВС БССР на восеньскай сесіі ізноў разврнуцца баталіі вакол прэзідэнцтва ў Беларусі. Як вынікае з вышэйсказанага, сам гэты факт не ўяўляе небяспекі для справы дэмакратыі. Усё залежыць ад таго, ці здолеюць дэмакратычна настроеныя грамадзяне нашай рэспублікі, якія адвяргаюць шлях да камуністычнай дыктатуры, аб'яднаць свае сілы і ва ўмовах дзеяння антыдэмакратычных законаў, эканамічнага і інфармацыйнага панавання камуністычнай наменклатуры перамагчы ва ўсеагульных выбарах.

Такая перамога магчымая — хутка спее ў палітычных адносінах рабочы клас Беларусі, абуджаецца вёска. Многае будзе залежаць ад актыўнасці адукаваных, свядомых людзей і моладзі, бо вырашаецца ў першую чаргу яе лёс, яе магчымасць стаць вольнымі, годнымі людзьмі. І, зразумела, ад асобы дэмакратычнага кандыдата. Яна павінна быць адна і вядомая ўсяму насельніцтву Беларусі. Гэта павінен быць маральна чысты чалавек, які ніколі не быў звязаны з наменклатурнаю мафіяй. Зразумела, шырока адукаваны і з палітычным вопытам. Ён павінен увасабляць лепшыя якасці беларускага народу — талерантнасць і стойкасць адначасова, гарачую любоў да сваёй радзімы і самаахвярнасць. Ён павінен нараджаць у людзей веру ў магчымасць перамогі і ведаць, як яе дасягнуць.

Канешне, лёс першага дэмакратычнага Прэзідэнта Беларусі не будзе зайздросным. Яго чакае цяжкая праца, супрацiўленне

наменклатуры і неверагодная адказнасць. Справа сумлення кожнага дэмакрата аказаць яму дзейную і бескарыслівую падтрымку. Справа кожнага сумленнага прафесіянала прапанаваць яму сваю дапамогу. Гістарычная велічнасць гэтай справы вызначаецца глыбінёй нашага нацыянальнага заняпаду. Але я глыбока веру ў тое, што наш народ, які стаіць на мяжы фізічнай і духоўнай гібелі, знойдзе неабходныя сілы і дэмакратыя ў Беларусі пераможа.

**P. S.** Гэты даклад, які быў прачытаны на пасяджэнні Сойму 13 ліпеня г.г., не згубіў сваёй актуальнасці і сёння. 19—21 жніўня камуністычная алігархія зрабіла спробу ваеннага перавароту. Путч праваліўся не ў апошнюю чаргу з-за таго, што Прэзідэнт апынуўся па іншы бок барыкад. Гэта наглядны прыклад таго, якую стабілізуючую ролю можа адыгрываць інстытут прэзідэнцтва ў грамадстве. Наогул, у мірных умовах гэтая роля яшчэ большая, чым у прыведзеным прыкладзе, паколькі ў паразе змоўшчыкаў рашучую ролю ўсё ж адыграла цвёрдая воля людзей абараніць дэмакратыю.

Аднак, у Беларусі падзеі, якія надышлі пасля разгрому рэакцыі ў Маскве, з асабліваю сілаю высветлілі недзеяздольнасць існуючай сістэмы ўлады. Нягледзячы на аднадушнае галасаванне ў ВС БССР 25 жніўня за дэпартызацыю дзяржаўных органаў і суверэнітэт рэспублікі, наменклатурны кабінет міністраў, які ўзначальвае В. Кебіч, не спяшаецца выконваць гэтыя рашэнні. Даўно стаіць і пытанне аб замене Старшыні Дзяржтэлерадыё БССР, які канчаткова скампраметаваў сябе ў дні путча. Неабходны замены кіраўнікоў праваахоўных органаў, якія бяздумна кінуліся, як звычайна, выконваць загады ЦК КПБ. Не адбываецца і нацыяналізацыі партыйнай маёмасці.

Чаканне рэформаў можа аказацца, наогул, дарэмным. І справа не толькі ў персанальным складзе кабінета міністраў, але і ў тым, што ягоны Старшыня сканцэнтраваў у сваіх руках усю паўнату выканаўчай улады. Ён выбіраўся Вярхоўным Саветам БССР і падсправаздачны толькі яму. Аўтарытэт у вачах народа для яго не такі важны, як для Прэзідэнта, які абіраецца агульным галасаваннем. Кланавыя ж інтарэсы СМ БССР і бальшыні сённяшняга ВС БССР супадаюць.

Усё гэта сведчыць аб тым, што алігархічная ўлада камуністычнай наменклатуры захоўваецца. Таму законы, распрацаваныя апазіцыяй і скіраваныя на дэмакратызацыю палітычнай сістэмы і абарону суверэнітэту рэспублікі, як і раней, будуць адхіляцца, за выключэннем тых, якія выгадны алігархіі. Таму будзе працягвацца няўхільнае спаўзанне ў бездань эканамічнага крызісу і прыва-

тызацыя ў інтарэсах партыйнай вярхушкі.

Выйсці з гэтага тупіку, не адстаць ад тых тэмпаў дэмакратызацыі грамадскага жыцця, якія назіраюцца ў суседніх рэспубліках, мы можам толькі шляхам новых выбараў і парламента, і Прэзідэнта на падставе новага дэмакратычнага закону аб выбарах. Праект такога закону распрацаваны і будзе вынесены на кастрычніцкую сесію ВС БССР. Характар яго абмеркавання і прадэманструе, ці гатовы існуючы Вярхоўны Савет, склад якога і раней не адлюстроўваў сімпатый насельніцтва, а сёння ў перамяніўшайся сітуацыі, наогул, выглядае палітычным атавізмам, прыстойна завершыць сваё існаванне і без канфліктаў ачысціць шлях нашаму народу к цяжкай, але неадкладнай працы па пераўтварэнню грамадства на новым грунце.

## ЗАМЕСТ ЗАКЛЮЧЭННЯ.

Гэтую прыпіску к соймаваму дакладу я зрабіў у жніўні 1991 г. яшчэ да перайменавання БССР у Рэспубліку Беларусь і забароны КПБ-КПСС. Але і сёння, праз паўтары гады, я гатовы падпісацца пад кожным словам той ацэнкі палітычнай сітуацыі і таго прагнозу развіцця падзей, якую БНФ рабіў адразу пасля правалу камуністычнага путчу.

Больш таго, акрыяўшы пасля перапалоху, наменклатурны Вярхоўны Савет забараніў рэферэндум, брутальна парушыўшы закон. І ў хуткім часе аднавіў КПБ-КПСС. З восені мінулага 1992 года ў палітычнай гісторыі Беларусі пачаўся адлік новай эпохі, якая характарызуецца стратаю ўладай нават бачнасці законнасці і пераўтварэння кіруючай групоўкі ў тыповую палітычную мафію.

Яе стратэгічны план зараз у тым, каб навязаць нашаму народу палітычны лад тыпу наменклатурнай дыктатуры. Ключавым момантам гэтай стратэгіі з'яўляецца абранне Прэзідэнта. Пра гэта гавораць абнародванне пры канцы X сесіі наменклатурнага плана — ўвесці Інстытут прэзідэнцтва і захаваць непрафесійны Вярхоўны Савет, які б абіраўся па ранейшаму. Гэта, бясспрэчна, парушыць раўнавагу паміж выканаўчай і заканадаўчай уладаю на карысць першай.

Разлік наменклатурнага клана палягае на тым, што кантралюючы сродкі масавай інфармацыі і адрадзіўшы структуры КПБ-КПСС, ён здолее абмануць народ і правесці праз усеагульныя выбары кандыдатуру свайго стаўленіка. Пры гэтым будзе скарыстана і тое, што па вясковых мясцінах і да сённяшняга дня ўлада старшынь калгасаў амаль неабмежаваная. Будуць выкарыстаны і цалкам слушныя разважанні пра неабходнасць умацавання дзяржаўнай дысцыпліны **і парадку.**

Але сапраўдны намер у тым, каб за год да сцячэння тэрміну існавання Вярхоўнага Савета, не пазней вясны 1994 году працягнуць свайго Прэзідэнта і не даць магчымасці правесці новыя парламенцкія выбары на падставе дэмакратычнага закона па шматпартыйнаму прынцыпу, які мог бы прывесці да стварэння моцнага вышэйшага заканадаўчага органа.

Калі планы наменклатуры спраўдзяцца і галасаванне будзе адбывацца не па партыйных спісах, то новы Вярхоўны Савет будзе такім жа балбатлівым і недзеяздольным, як і сённяшні. А гэта гарантуе наменклатурнай мафіі захаванне ўлады аж да 2000 года. Зразумела, што па сцячэнні такога тэрміну нельга будзе гаварыць ні пра якую рэпрыватызацыю і вяртанне дзяржаве нарабаванай камуністычнымі лідэрамі маёмасці. Менавіта на гэта і скіраваны зараз намаганні дзеючай улады.

Можна было б, мабыць, пагадзіцца і з такім ходам падзей, калі б была хоць маленькая гарантыя таго, што палітыка раскрадання дзяржмаёмасці і замаруджвання эканамічных рэформ дазволіць нам пазбегнуць паглыблення гаспадарчага крызісу. Але ж, лёгка бачыць, што немагчыма захаваць сацыялізм на Беларусі, калі ўсе нашыя суседзі рэфармуюць свае вытворчыя адносіны. Чым пазней станем мы на шлях рэформ, тым большыя страты панясе наша гаспадарка і больш высокую плату заплоціць кожны грамадзянін.

Таму прэзідэнцкая кампанія, якая набліжаецца, і набывае такі высокі палітычны сэнс.

23 лютага 1993 г.